10 сакавіка 2017 | № 9 (523)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Уся надзея на жанчын
стар. 9



# Даведзеных да адчаю не запалохаць

## Улада адкатваецца ў звыклае рэпрэсіўнае рэчышча, ці дапаможа ёй гэта?



Сяргей ПУЛЬША

Пратэсты супраць «дармаедскага дэкрэту» ў краіне, насуперак чаканням, не сцішваюцца. У мінулыя выходныя эстафету падхапілі Брэст і (зноў) Віцебск. На 11–12 сакавіка запланаваныя акцыі яшчэ ў некаторых рэгіёнах. У Мінску акцыі прызначаныя на Дзень Канстытуцыі 15 сакавіка і ў Дзень Волі 25-га. А ўлада, падаецца, не надта ведае, што рабіць.

Пасля першай хвалі «недармаедскіх» маршаў у сацыяльных сетках пачалося абмеркаванне: ці могуць гэтыя акцыі нашкодзіць Беларусі і прывесці ў краіну расійскіх «ветлівых людзей»? Дзіўна, адкуль яно ўзнікла, бо пытанне скасавання дэкрэту №3 — выключна ўнутранае пытанне. І не кранае «рускі свет». Тым не менш, звыклай пужалкай паспрабаваў скарыстацца Аляксандр Лукашэнка, калі намякнуў 28 лютага пры наведванні РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак, што іх, «дармаедаў» скарыстоўваюць, каб «разгайдаць човен».

Актыўных удзельнікаў «Маршаў недармаедаў» пачалі прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці. У тым жа Брэсце чацвёра маладзёнаў упершыню за доўгі час атрымалі за ўдзел у акцыі не штрафы, як заведзена зараз, а адміністрацыйныя арышты.

І «вішанькай на торце» стаў тэрмінова злеплены беларускім тэлебачаннем прапагандысцкі фільм-пужалка «Званок сябру». У звыклай для сябе манеры БТ не грэбуе рознага кшталту «неправеранай інфармацыяй». У эфіры, напрыклад, з'явіліся «тэлефонныя размовы» Міколы Статкевіча — нягледзячы на тое, што праслухоўванне тэлефона ажыццяўляецца толькі з санкцыі пракурора ў межах заведзенай крымінальнай справы. А за разгалошванне тайны следства таксама прадугледжана адказнасць.

У фільме «Званок сябру» ўсё змяшана да кучы: Югаславія часоў Мілошавіча (той ужо больш як дзесяць гадоў у магіле), нейкі анархіст, які, нібыта, планаваў тэракт у Мінску ў 2014 годзе (пры чым тут 2014-ы да 2017-га?), «Правы сектар» (якога ўжо і ва Украіне амаль не існуе). Дзякуй Богу, не дадалі туды «візітовак Яраша» і «распятых хлопчыкаў», бо ўжо ўвогуле смешна было б.

Карацей, улада пачынае дзейнічаць звыклымі сродкамі: па-першае, рэпрэсіі ў дачыненні да актывістаў, па-другое, спроба дыскрэдытаваць акцыі пратэсту. Апошняе — з гебельсаўскай прымаўкай: «Чым нахабней хлусня, тым больш у яе верацца».

Але зараз на двары — не 2006 і не 2010 год. Зараз іншая сітуацыя, іншае грамадства, і галоўнае — іншы пратэст. Гэта падчас выбараў можна было сцвярджаць, што «купленыя правакатары» спрабуюць «разгайдаць човен» і дарвацца да ўлады.

Сцвярджаць, што беларускі «дармаедскі дэкрэт», які стаў чыннікам «дэстабілізацыі сітуацыі» ў краіне, інспіраваны нейкімі знешнімі сіламі — проста глупства. Усе ведаюць, чый подпіс стаіць пад гэтым дакументам і хто збірае гэты падатак. Калі верыць БТ, давядзецца прызнаць, што злачынны «Правы сектар», які імкнецца ствaрыць у Беларусі «Майдан», атабарыўся ў Адміністрацыі прэзідэнта і беларускім урадзе.





> **«Усе баяцца, і я баюся. Але рабіць няма чаго — на акцыю прыйдзем»**

Сённяшні пратэст наўрад ці можна спыніць рэпрэсіўнымі альбо прапагандысцкімі метадамі. Проста таму, што гэта пратэст адчайных людзей. Людзей, якія абураныя несправядлівасцю і не вераць уладзе.

Перш, чым зноў раскручваць махавік рэпрэсій (што пры сённяшнім стане эканомікі, незавершаных перамовах па крэдыце з МВФ і спробах палепшыць адносіны з Еўропай небяспечна), уладзе трэба было б паслухаць саміх «дармаедаў». Хаця б на старонках прэсы. Адзін з іх, з Гомелю, кажа «Deutsche Welle»: «Усе баяцца, і я баюся. Але рабіць няма чаго — на акцыю прыйдзем».

Актывістка з Брэста ў інтэрв'ю «Нашай Ніве» зазначае: «Я не веру дэпутатам і чыноўнікам, бо некалькі чалавек, закрыўшыся ў сваіх кабінетах, не могуць вырашаць за ўвесь народ, што для яго лепей. Інтарэсы ўлады абмяжоўваюцца ўласным дабрабытам, які дасягаецца тым, што яны адбіраюць апошняе ў людзей, у тым ліку з дапамогай новага закона або дэкрэта... Баялася я гэтага (рэпрэсій)? Дакладна не. Калі жывеш у краіне, пастаянна падвяргаючыся рэпрэсіям, знявагам, несправядлівасці і ў перманентным стане безвыходнасці з пытаннямі: «Што рабіць далей? Як жыць годна?», то цябе ўжо не палохаюць перспектывы апынуцца за кратамі».

Запалохаць можна тых, каму яшчэ ёсць што губляць. Але калі людзі даведзеныя да адчаю, — апроч пратэсту, рабіць ім ужо няма чаго.

***P.S.*** *Калі нумар здаваўся ў друк, стала вядома, што Лукашэнка паведаміў пра «замарозку» дэкрэту: яго выкананне прыпынена на год. Але гэта не тое, чаго дамагаліся пратэстоўцы — дакумент не адменены. Таму арганізатары пратэстаў сцвярджаюць: вулічныя акцыі будуць працягвацца.*

# Прадаць медаль, каб заплаціць падатак

**Былая настаўніца з Жыткавіцкага раёна Людміла Богуш хоча прадаць медаль «За працоўную доблесць», каб з гэтых грошай заплаціць за сына «дармаедскі» падатак.**

Яе сын Мікалай мае праблемы са зрокам і ныркамі, а працу па спецыяльнасці, якую набыў у Магілёўскім біблітэчным тэхнікуме, доўгія гады знайсці ў раёне не можа.

«На жаль, медалём маім пакуль не зацікавіліся, — распавяла Людміла Богуш. — На пачатку я ўсур'ёз думала, што мой медаль "За працоўную доблесць", які я атрымала як настаўніца пачатковых класаў яшчэ ў 1970-я гады, дапаможа сыну. Дасведчаныя людзі нядаўна патлумачылі, што за медаль я магу ў пераліку на цвёрдую валюту выручыць доляраў 20, а падатак цягне амаль на 200. Медаль — гэта адзінае, што я магу прадаць, хоць у параўнанні з падаткам ён каштуе капейкі.

Пенсія ў мяне за тры з палавою дзесяцігоддзі педагагічнай працы ледзь перавышае 300 рублёў, а "дармаедскі" падатак — 360. Больш, чым мая месячная пенсія. Мы ж з сынам на маю пенсію жывём. Канцы з канцамі і так ледзьве стачваем, а тут яшчэ гэты "дармаедскі" падатак».

Не раз сын Людмілы звяртаўся ў Жыткавічы ў аддзел ідэалогіі, культуры і па справах моладзі. Адказвалі: «Чакайце».

«Мінуў год культуры, у які закрывалі і клубы, і бібліятэкі. У нашай Рудні бібліятэку павесілі ў нагрузку на загадчыцу клубу, — працягвае Людміла. — Сын рэгістраваўся ў цэнтры занятасці, але там яму таксама нічога не знайшлі па спецыяльнасці. Урэшце прапанавалі перавучвацца на качагара. Пагадзіўся. Узяў накіраванне, стаў праходзіць медычную камісію. Дык лекары завярнулі назад: па здароўі не прапусцілі. Цяпер жа кацельні працуюць пераважна на дровах, вуглі. Сказалі, што гады праз два зрок можа зусім страціць. Вось так і застаўся сын у "дармаедах"».

Па меркаванні Людмілы, калі ўлада не можа прапанаваць працу, то не людзі ж вінаваты, што застаюцца беспрацоўнымі. Гэта чыноўніцтва, слугі народныя працуюць абы-як і атрымліваюць высокія заробкі. Дык якое тады права яны тады маюць запускаць скваپную руку ў наш і без таго пусты гаманец?

«Альбо раяць яшчэ: звярніцеся ў сельсавет, у раённую камісію, а яны прыедуць агледаць вашае жытло, высвятляць матэрыяльнае становішча сям'і. Гэта што ж за прыніжэнне такое?! Хіба вы далі майму сыну матэрыяльныя даброты нажыць? Вы ж прыходзіце, па сутнасці, маё матэрыяльнае становішча высветліць. Дык хіба не вядома, колькі я зарабіла ў дзяржавы за тры з паловай дзесяцігоддзі працы ў школе? — дадае Людміла Богуш. — Сын, калі атрымаў 'ліст шчасця' з падатковай інспекцыі, то адпісаў ім і ў райвыканкам, што не можа ўладкавацца на працу, што дэкрэт № 3 супярэчыць Канстытуцыі нашай незалежнай краіны. Райвыканкам на гэта змаўчаў — ні слыху, ні дыху, а падатковая інспекцыя даслала ліст, у якім указала: права на вызваленне ад падатку адсутнічае».

Нагадваем, гандаль дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь і СССР у Беларусі забаронены.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# Спалохаліся пратэстаў і пачалі пераслед

**Улады Беларусі паспешліва спрабуюць знізіць сацыяльную актыўнасць насельніцтва, звязаную з прымяненнем Дэкрэта №3 аб сацыяльным утрыманстве.**

Дзеля гэтага выкарыстоўваюцца самыя разнастайныя метады: запалохванне і папярэджанні, штрафы і арышты, змяшчэнне ў псіхіятрычную лякарню, затрыманні іператрусы.

### Брэст

6 сакавіка адміністрацыйнымі арыштамі ад 4 да 5 сутак былі пакараныя чацвёра прадстаўнікоў анархісцкага руху, якія бралі ўдзел у маршы недармаедаў 5 сакавіка. У суд іх прывезлі пасля 17 гадзін і судзілі аж да 20.30, каб менш народу магло паўдзельнічаць у судовых працэсах. У гэты дзень за ўдзел маршы недармаедаў актывіста Андрэя Шарэнду аштрафавалі на 25 базавых велічыняў (575 рублёў). Суд над актывістам з Бярозы Аляксандрам Кабанавым перанесены на 9 сакавіка.

### Гродна

Працягваецца пераслед гродзенскіх удзельнікаў акцыі супраць дэкрэта №3, якая адбылася 19 лютага. На актывістку БХД Галіну Ламашэвіч склалі пратакол, які чакаў яе вяртання ў родны горад. Пасля шэсця недармаедаў у Гродна Галіна Ламашэвіч ад'язджала да сваякоў. Але як толькі яна вярнулася, да яе да хаты завіталі міліцыянты з пратаколам. Падпісваць яго ўдзельніца акцыі адмовілася. Міліцыянты паведамілі ёй, што суд адбудзецца на гэтым тыдні.

Усяго ў Гродна складзена больш за 10 пратаколаў адміністрацыйных правапарушэнняў за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Улады таксама адмовілі ў правядзенні мітынгу за адмену Дэкрэту №3, які планавалася правесці 15 сакавіка. Паводле кіраўніка філіі БНФ Вадзіма Саранчукова, заяўку падалі ў адпаведнасці з артыкулам 5 закону Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1997 года № 114-З «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

### Гомель

Уладзімір Няпомняшчых — адзінаццаты ўдзельнік акцыі пратэсту супраць Дэкрэту №3, які 6 сакавіка атрымаў па пошце адміністрацыйны пратакол, складзены на падставе артыкула 23.34 КаАП. Падобныя пратаколы раней атрымалі праз пошту Леанід Судаленка, Уладзімір Кацора, Віктар Рубцоў, Васіль Палякоў, Барыс Анікееў, Мікалай Пяшко, Андрэй Макараў, блогеры Максім Філіповіч і Дзмітрый Сабураў ды некаторыя іншыя ўдзельнікі маршу.

### Орша

6 сакавіка ў прыватным доме №13 па вуліцы Чырвонаармейскай, дзе збіраліся мясцовыя актывісты, супрацоўнікі міліцыі правяліператрус — па падазрэнні ў друкаванні фальшывых грошай.Ператрус працягваўся гадзіны паўтары. Пераглядалі ўважліва ўсе рэчы, але з сабой забралі на праверку выключна аргтэхніку. Журналіст Ігар Казмерчак прычынуператрусу бачыць у тым, што 12-га сакавіка ў Оршы плануецца правесці «Марш недармаедаў», звесткі пра які былі размешчаны на сайце orsha.eu, які рэдагуе Казмерчак.

### Пінск

Пракуратура Пінскага раёна вынесла пісьмовае папярэджанне грамадскаму актывісту Дзмітрыю Сергіевічу толькі за тое, што на сваёй старонцы «УКантакце» паведаміў пра дзень і час Марша недармеедаў у Пінску. Гэта стала падставай паліцыць Сергіевіча арганізатарам будучай акцыі. Блогеру далі зразумець, што ягоны выхад на акцыю будзе каштаваць яму ад 20 да 40 базавых велічынь штрафу або адміністрацыйнага арышту.

### Магілёў

Днём 7 сакавіка дадому да актывіста апазіцыі, сябра аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) Станіслава Паўлінковіча з ордэрам на агляд кватэры прыйшоў супрацоўнік міліцыі.

Ён спрабаваў забраць у актывіста кампутар, сцвярджаючы, што з дапамогай гэтай тэхнікі той распаўсюджваў парнаграфічныя матэрыялы.

Як паведаміў БелаПАН актывіст, раней яму тэлефанавалі з міліцыі і запрашалі прыйсці на размову ў РАУС, але ён адмовіўся ісці без позвы. Пасля гэтага ў яго кватэры з'явіўся міліцыянт.

Паўлінковіч сцвярджае, што парнаграфічныя матэрыялы ў сацыяльных сетках не размяшчаў, і наўпрост звязвае тое, што адбываецца са сваёй актыўнасцю падчас пратэсту супраць дэкрэта аб «дармаедах».

Пратаколы адміністрацыйных правапарушэнняў складзеныя таксама на ўдзельнікаў акцый пратэсту супраць Дэкрэта №3 з Магілёва, Віцебска, Баранавічаў і Бярозы.

Па ўсёй Беларусі ідэолагі і прадстаўнікі вертыкалі наведваюць прадпрыемствы і навучальныя ўстановы, папярэджваюць аб наступстваў удзелу ў маршах пратэсту аж да звальнення і выключэння са студэнтаў.

**Паводле spring96.org**

# Надзея на распаўсюд яшчэ застаецца

**Рэдакцыя «Новага Часу» атрымала адказ ад РУП «Белпошта» і РУП «Белсаюздрук».**

Нагадаем, 17 лютага мы адправілі лісты ў гэтыя ўстановы з просьбай пра ўключэнне газеты «Новы Час» у сістэму распаўсюду праз рознічную гандлёвую сетку РУП «Белсаздрук» і падпісны каталог РУП «Белпошта».

Упершыню за шмат гадоў мы атрымалі фармальна не адмоўны адказ.

У прыватнасці, кіраўніцтва «Белсаюздруку» паведамляе, што наш зварот «прыняты да разгляду», і што па выніках мы будзем «праінфармаваныя дадаткова».

«Белпошта» паведаміла, што праінфармуе рэдакцыю пра збор інфармацыі «з мэтай фарміравання падпісных каталогаў на II паўгоддзе 2017 года» ў трэцяй дэкадзе сакавіка.

Такім чынам, нібыта нам і не адмовілі, але ў распаўсюд пакуль і не ўключылі.

Можна толькі здагадвацца, ад чаго будзе залежыць станоўчы адказ, і чыё слова будзе вызначальным у вырашэнні гэтага пытання.

Што ж, пачакаем. Надзея яшчэ застаецца.

# Лісты Бандарэнкі канфіскуе цэнзура

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**У тым, што 21 ліст Андрэя Бандарэнкі канфіскаваны цэнзурай, парушэнняў законнасці не выяўлена.**

Такі адказ аўтару гэтых радкоў прыйшоў з пракуратуры Магілёўскай вобласці за подпісам в.а. пракурора Алега Пімашкова.

Напрыканцы студзеня група асобаў накіравала калектыўны зварот да генеральнага пракурора краіны Аляксандра Канюка. У лісце мы звярнулі ўвагу галоўнага пракурора на факты неабгрунтаванага накладання дысцыплінарных спагнанняў на Андрэя Бандарэнку, папрасілі ўзяць пад асабісты кантроль законнасць расследавання і разгляду крымінальнай справы ў дачыненні да яго па артыкуле 411 КК ( «Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы...») і паскардзіліся на «перабоі» ў перапісцы з асуджаным.

Атрымалі адказ ад в.а. пракурора Магілёўскай вобласці на двух друкаваных лістах. Чым ён адметны? Перш за ўсё, тым, што пракуратура «ў курсе» ўсіх падзей па гэтай крымінальнай справе, у тым ліку адносна дысцыплінарных спагнанняў за ўвесь час адбыцця пакарання. Як і варта было чакаць, пракурор паведаміў, што ўсе яны вынесеныя «...у строгай адпаведнасці з заканадаўствам, у тым ліку з п.п.293, 294 Правілаў унутранага распарадку папраўчых установ, зацверджаных пастановай МУС Рэспублікі Беларусь №174 ад 20 кастрычніка 2000 г.».

Што тычыцца перапіскі Бандарэнкам, то падлічана, што пасля ўзбуджэння крымінальнай справы па 411 артыкуле, ім адпраўлены 52 лісты і атрыманыя 39 адпраўленняў. З іх 21 ліст ад імя Бандарэнкі «...не накіраваны адрасатам, бо не прайшлі цэнзуру».

Апошняя акалічнасць прымушае задумацца: у нас што, да гэтага часу захоўваецца цэнзура? Канстытуцыя (артыкул 33), як і Закон «Аб сродках масавай інфармацыі» (артыкул 7), цэнзуру забараняюць наўпрост, а ў Крымінальным кодэксе ёсць артыкул 203 «Парушэнне таямніцы перапіскі, тэлефонных перамоў, тэлеграфных і іншых паведамленняў». У гэтых актах не робіцца выключэнняў для папраўчых установ. За наўмыснае парушэнне таямніцы перапіскі, у тым ліку з боку службовых асоб, прадугледжваецца пакаранне, аж да двух гадоў пазбаўлення волі.

Значыць, у бліжэйшы час пракуратура Магілёўскай вобласці павінна нам паведаміць аб 21 крымінальнай справе, узбуджанай па артыкуле 203 КК, па фактах незаконнай канфіскацыі лістоў Бандарэнкі і парушэнні яго канстытуцыйных правоў. Будзем чакаць.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Развод і кухня напалову?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пакуль мы засяродзіліся на ўнутраных праблемах, па-за ўвагай засталіся цікавыя і, магчыма, вызначальныя для нашага далейшага лёсу падзеі.**



Фота www.mk-turkey.ru

Напрыклад, днямі ў Бішкеку адбылася сустрэча кіраўнікоў урадаў ЕўрАзЭС. На ёй беларускі прэм'ер Андрэй Кабякоў упікнуў Расію ў тым, што яна не спрыяе інтэграцыйным працэсам. У прыватнасці, Кабякоў сказаў, што не бачыць рэальных поспехаў у інтэграцыі на прасторы ЕўрАзЭС, і быў «вымушаны канстатаваць, што двухбаковая нарматыўная база не выконваецца».

Як прыклад, ён прывёў нашу нафтагазавую спрэчку з Расіяй. «Мы паставілі задачу рэалізаваць фундаментальнасць свабоды перасоўвання тавараў, паслуг, капіталу і працоўнай сілы, якія з'яўляюцца базісам нашага эканамічнага саюза. Вымушаны канстатаваць, што ствараюцца ўсё новыя перашкоды і бар'еры... Добра, хай будзе пакуль розніца ў коштах на газ. Мы дамовіліся пры падпісанні Дамовы аб Еўразійскім эканамічным саюзе, што яна будзе паступова ліквідаваная да 2025 года. Але чаму гэтая розніца так рэзка расце — не на 1%, не на 5% і нават не на 10%? Розніца ў цэнах паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй вырасла з 38% у пачатку 2014 да 110% у 2016 годзе. Чаму пасля стварэння ЕАЭС замест паступовага скарачэння розніца стала амаль у тры разы вышэй? Якая свабода руху тавараў, паслуг, капіталу і працоўнай сілы тут можа быць?» — задаўся пытаннем Кабякоў.

І атрымаў адлуп ад кіраўніка ўраду Расіі Дзмітрыя Мядзведзева. Той заклікаў краіны, якія ўваходзяць у ЕўрАзЭС (чытай, Беларусь), не пераносіць праблемы двухбаковых адносін на шматбаковую пляцоўку Саюза, не ператвараць працэс інтэграцыі ў «закладніка» нацыянальных інтарэсаў асобных дзяржаў. «Толькі што гэта з поспехам прадэманстравалі беларускі бок», — заўважыў ён.

Як падкрэсліў Мядзведзеў, гэта «падобна на шантаж: ці паўплывайце, ці мы нічога не падпішам», і параіў Кабякову «не практыкавацца ў падліках» на кошт расійскага газу. «Давайце наўпрост, без хітрыкаў: калі б некаторыя краіны, прысутныя тут, не ўваходзілі ў склад нашага Саюза, або выйшлі б з яго, яны куплялі б цяпер газ па еўрапейскіх коштах... І не трэба нічога даказваць і практыкавацца ў падліках, усё было б значна даражэй, — сказаў Мядзведзеў, і дадаў: — Тут ніхто нікога сілком не трымае».

Карацей, два прэм'еры пасварыліся, як базарныя бабулькі, у стылі «сам дурань». Але фразы кшталту «давайце не практыкавацца ў падліках» і «тут ніхто нікога сілком не трымае» могуць пацягнуць за сабой даволі сур'ёзныя наступствы.

Напрыклад, усім вядома, што еўрапейскі кошт газу, як і кошт транзіту, зараз вызначаецца на мяжы з Германіяй — такая завядзёнка засталася з часоў савецкага Савета эканамічнай узаемадапамогі — эканамічнага аб'яднання краін Варшаўскай дамовы. У часы перабудовы і «параду суверэнітэтаў», як вядома, сканаў СССР. СЭУ і Варшаўскі блок — разам з ім. І некаторыя эканамісты, напрыклад, кіраўнік Інстытута трансфармацыі грамадства, прафесар нацыянальнай акадэміі кіравання Украіны Алег Соскін лічыць, што кошт на газ (і на яго транзіт) павінен вызначацца на мяжы новых незалежных дзяржаў.

Такім чынам, кошт транзіту расійскага газу ў Еўропу па Беларусі павінен каштаваць 6–7 еўра за 100 кубічных метраў на 100 кіламетраў, а не прыкладна два — два з паловай долары, як сёння.

Давайце Расія заплаціць нам за 20 гадоў функцыянавання на нашай тэрыторыі двух сваіх вайсковых аб'ектаў РЛС пад Вілейкай і Ганцавічамі. І тады паглядзім, хто каго «сілком трымаць не будзе».

У той жа час міністр сельскай гаспадаркі Леанід Заяц ласкава запрасіў у Беларусь кіраўніка Рассельгаснагляду Сяргея Данкверта, каб наладзіць адносіны паміж дзвюма краінамі «ў сферы пастаўкі прадуктаў», і паабяцаў гарантаваць яму бяспеку падчас гэтага візіту. «З задавальненнем сустрэнем, пакажам нашы прадпрыемствы, раскажам пра ўсё. Трэба ж неяк сустракацца, трэба дамаўляцца», — сказаў Заяц.

На пытанне, ці можа ён гарантаваць, што Данкверт вернецца на радзіму пасля візіту ў Беларусь, Заяц адказаў: «Несумненна! Вядома, адправім». Ён растлумачыў, што Беларусь — прававая і бяспечная дзяржава, якая можа гарантаваць «бяспеку любому, хто заехаў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь».

Але, улічваючы, што зараз МУС РБ актыўна «капае» на крымінальную справу супраць Данкверта, апошні ехаць у гасцінную краіну адмовіўся. Маўляў, мэта запрашэння не ясная (хаця паглядзець на месцы, як вырабляецца беларуская прадукцыя і якія тут дзейнічаюць стандарты — куды ж ясней!) і пытанняў, якія трэба абмеркаваць пры асабістай прысутнасці Данкверта ў Беларусі, няма. Нават нягледзячы на тое, што на сакавік запланаваная сумесная калегія Беларусі і Мінсельгаса Расіі, дзе плануецца абмеркаваць пастаўкі айчыннай прадукцыі ў Расію. Расійскаму боку была накіраваная прапанова правесці яе да 10 сакавіка, але гэтая прапанова пакуль засталася без адказу.

Магчыма, Данкверт разумее, што «адпраўка назад» — не ў кампетэнцыі спадара Зайца. Тое, што яго тут «прымуць і адправяць», сумневаў, канешне, не выклікае. Выклікаюць сумневы, як, калі і ў якім выглядзе будзе ажыццяўляцца гэтая адпраўка. Баўмгертнера, урэшце, таксама адправілі ў Расію — толькі пасля працяглай адседкі ў «амерыканцы» і ў кайданках.

І па-ранейшаму застаецца цікавы момант з сустрэчай Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна. Планавалася, што яна пройдзе месяц таму — 9 лютага. Менавіта на тую дату быў запланаваны Вышэйшы дзяржсавет Беларусі і Расіі. Але «з-за несупадзення графікаў» ён быў адкладзены. І новая дата яшчэ не вызначана, паведаміў прэс-сакратар кіраўніка расійскай дзяржавы Дзмітрый Пяскоў.

Пры гэтым Пяскоў адзначыў, што тэма развіцця ЕАЭС «з'яўляецца прыярытэтнай для Пуціна, які надае вялікае значэнне ўдзелу РФ у гэтым аб'яднанні».

Прыярытэт для любога разумнага чалавека азначае першасную справу. І чаму абодва кіраўнікі ўжо месяц не могуць знайсці часу для першаснай справы? Не такая, значыць, яна ўжо і першасная.

Можа сапраўды Расія і Беларусь хутка развядуцца? Прынамсі, пасля гэтага кольказсць спрэчак і сварак гарантавана знізіцца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Сяргей Пальчэўскі



**Актывіст, які сваім сваім самаахвярным учынкам фактычна спыніў будаўніцтва ў Курапатах, атрымаў трое сутак.**

Гэты прысуд можа канчаткова спыніць і пацяпленне адносін Беларусі з Еўропай.

Нагадаем, што Сяргей Пальчэўскі 24 лютага прыкаваў сябе кайданкамі да МАЗа будаўнікоў, што стала кульмінацыйным момантам у супрацьстаянні. Пазней забудоўшчык Ігар Анішчанка заявіў, што не будзе ўзводзіць бізнэс-цэнтр, дзе людзі прыкоўваюць сябе кайданкамі.

7 сакавіка супрацоўнікі міліцыі затрымалі Сяргея каля дома і звезлі ў невядомым напрамку. Спробы высветліць, у які РАУС трапіў актывіст, былі безвыніковымі. Пазней аказалася, што трапіў ён у суд Першамайскага раёна Мінска, дзе яго пакаралі. Спачатку паведамлялася пра 10 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, прычым невядома, у якой. Потым высветлілася: толькі на трое. Раней Сяргей Пальчэўскі сабраў больш за ўсё подпісаў за наданне бел-чырвона-беламу сцягу дзяржаўнага статусу: на яго рахунку 1800 подпісаў.

Арышт Пальчэўскага, як і арышты брэсцкіх анархістаў, якім таксама прысудзілі адміністрацыйныя «суткі», можа зноў паставіць на міжнароднай арэне пытанне пра правы чалавека ў Беларусі. І сапсаваць адносіны з Захадам, якія толькі-толькі пачалі наладжвацца.



## Ігар Марзалюк

**Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, які раней быў чальцом Савету Рэспублікі, абвінаваціў у карупцыі Міністэрства культуры.**

Ігар Марзалюк заявіў, што Мінкультам павінен заняцца Следчы камітэт.

Выказаў ён гэта публічна на ток-шоў «Справа прынцыпу» на тэлеканале АНТ. Частка перадачы была прысвечана пратэстам супраць будаўніцтва бізнес-цэнтра і намётаваму мястэчку ля Курапатаў. Нагадаем, што пляцоўка для будаўніцтва спачатку ўваходзіла ў ахоўную зону Курапатаў, але пасля продажу яе інвестару, была з гэтай зоны выведзеная.

«Тут ёсць прамая віна Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. У 2004 годзе была зацверджана ахоўная зона вакол урочышча Курапаты. З улікам праведзеных афіцыйных праверак, археалагічных раскопак былі высветлены межы гэтай зоны. Яны былі афіцыйна зацверджаны пастановай Савета міністраў. У мяне проста пытанне: колькі каштавала памяняць межы ахоўнай зоны?» — сказаў Марзалюк.

«Мне цікава, хто націснуў на Міністэрства культуры? Фармальна вінаваты той, хто прыняў рашэнне. Я не веру ў альтруізм. Я думаю, што гэта пытанне да Следчага камітэта», — сказаў дэпутат.

Ці возьме пад увагу Следчы камітэт словы былога сенатара, а сёння дэпутата — пабачым.



## Віталь Гуркоў

**Чэмпіён па муай-тай, саліст гурта «Brutto» ў чарговы раз даказвае адданасць справе гісторы Беларусі.**

Гэтым разам яго не задаволіла распаўсюджаная выява беларускага нацыянальнага гербу — «Пагоні».

Па меркаванні Віталя Гуркова, мы зараз скарыстоўваем не гістарычную, а спрошчаную версію выявы герба. А Віталь дбае пра сапраўдную геральдыку, «Пагоню», якая ўпрыгожвала калісьці талеры Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. З мэтай папулярызаваць «сапраўдную «Пагоню», Гуркоў прадставіў новую лінейку адзення з сімвалічнай для Беларусі геральдыкай.

Новы праект ад 12-разовага чэмпіёна свету па тайскім боксе — гэта магчымасць набыць цішотку, світшот, худзі або ваярскі талер з гістарычнай «Пагоняй», але ў новым стылістычным вырашэнні, піша kyky.org.

Новая лінейка адзення — гэта спроба зламаць устойлівы стэрэатып, дзе кіч дамінуе над стылем. Гэта не эпатажна-падлеткавы стыль, у якім чацкім сімвал «Пагоні» выглядае немудрагеліста і лапезна, а новы брэнд, які ўключае ў сябе паняцці прэстыжу і якасці.

На дадзены момант ідзе збор сродкаў на выпуск рэнтабельнай партыі вырабаў — 100 манет і 60 цішотак. Той, хто падтрымае гэты праект, можа стаць уладальнікам світшота з аўтографам Гуркова, або падарункавага талера, сувеніра, канешне, больш стыльнага, чым зубр з клюшкай.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Ад ідэалогіі моста да ідэалогіі вострава

**Сацыяльны кантракт «лаяльнасць узамен на выжыванне» эфектыўны толькі ў рэжыме надзвычайнага становішча.**

Сёння кожнае дзіця ведае, што такое цацкі-трансформеры. Аднак і маім аднагодкам ёсць што ўнесці ў інавацыйную скарбонку. Як тут ні прыгадаць нагавіцы-трансформеры з кінафільма «Брыльянтавая рука». Лёгкім рухам рукі яны ператвараліся ў элегантныя шорты.

Жыццё, аднак, не стаіць на месцы. За няпоўныя 10 гадоў у геаграфічным цэнтры Еўропы сфармавалася цэлая дзяржава-трансформер. Многія гады яна пазіцыянавала сябе ў якасці моста паміж Захадам і Усходам.

Пасля «Крымнаша» рух па месце замарудзіўся, і неяк незаўважна для самой сябе і навакольных дзяржава-мост трансфармавалася ў дзяржаву-востраў. Тут мы звернемся па даведку да школьнага падручніка геаграфіі. Востраў — частка зямлі, якая з усіх бакоў акружаная вадой. Але выпадак, пра які я пішу, адмысловы. Ён спароджаны не геаграфічнымі, а сацыяльна-палітычнымі прычынамі.

Механізм узнікнення дзяржавы-вострава адзіны палітык (АП) падрабязна апісаў у сваім апошнім навагоднім віншаванні: «У розных кутках планеты ўспыхваюць узброеныя канфлікты, здзяйсняюцца тэракты, абвастраюцца міжнацыянальныя і міжканфесійныя войны. Захаваць Беларусь астраўком стабільнасці і спакою было няпроста. Але мы гэта зрабілі, забяспечыўшы мір і бяспеку грамадзян!»




## Невясёлая статыстыка

Замацуем пройдзенае. Востраў у традыцыйным разуменні — частка зямлі, акружаная вадой. Востраў стабільнасці — дзяржава, па перыметры якой успыхваюць узброеныя канфлікты, бушуюць эканамічныя, сацыяльныя і іншыя віды крызісаў.

Наколькі ж справядлівы астраўны статус Беларусі? Пачнём з паўднёвага суседа. Вось ужо чацвёрты год на ўсходзе Украіны ідзе вайна. Тысячы забітых. Лік уцекачоў ідзе на мільёны. Не дай Бог падобнае ўбачыць на сваёй зямлі!

Перамесцімся цяпер супраць гадзіннікавай стрэлкі. Расія. Спрачацца пра ўзровень яе стабільнасці я не гатовы, але той, хто думае, нібыта ён ніжэйшы, чым у Беларусі, хай першым кіне ў мяне камень.

На поўначы і захадзе востраў стабільнасці «абмываюць» дзяржавы-сябры ЕС: Латвія, Літва і Польшча. Як ацаніць іх узроўні стабільнасці? Што выбраць у якасці крытэру? Прапаную скарыстаць падказкай АП: «Нельга не прызнаць справядлівасць ісціны аб тым, што маленькая зарплата здольная разбурыць нават самую моцную дзяржаву».

У ліпені 2016 года сярэднямесячны даход складаў у Польшчы 1029 долараў, у Літве — 862, у Латвіі — 626 і 374 — у Беларусі. Даходы даходамі, але нездарма ж нам АП пастаянна нагадвае пра бясплатную адукацыю, медыцыну і пра тарыфы ЖКГ, што шчодра субсідуюцца з бюджэту. Пры гэтым ён, натуральна, не тлумачыць, што грошы «з бюджэту» — гэта грошы падаткаплацельшчыкаў, г.зн. нашы з вамі грошы.

Тым не менш прызнаем праблему і звернемся да чарговага шэрагу лічбаў: сярэдні даход за вылікам сярэдняга кошту камунальных паслуг у Польшчы — 873 долары, у Літве — 693, у Латвіі — 450 і ў Беларусі — 327.

Можна доўга параўноўваць, дзе што даражэй, а што танней. Фармат газетнага артыкула мне гэтага не дазваляе. Таму выкарыстаем інтэгральны паказчык — ВУП на душу насельніцтва за мінулы год. Для разумення маштабу пераменаў у нашых суседзяў у дужках пакажу гэты паказчык за 2004-ы (год уступлення ў ЕС). Літва — 14,9 (6,7) тысячы долараў, Латвія — 14,1 (6,3), Польшча — 12,3 (6,6), і Беларусь — 5,1 (2,7).

Ёсць такое слова — «дывергенцыя» (ад лацінскага divergere — выяўляць разыходжанне). Яно запазычана сацыяльнай навукай з біялогіі, дзе азначае разыходжанне прыкмет у роднасных арганізмаў у працэсе іх эвалюцыі. Дывергенцыю паміж «беларускай мадэллю» і мадэллю суседзяў, якія ўступілі ў 2004 годзе ў ЕС, і дэманструе сёння эканамічная статыстыка.

## Паміж мэтай і сродкам

Старажытныя індусы лічылі, што стабільнасць на Зямлі забяспечваюць чатыры сланы, якія стаяць на спіне чарапахі. Падобную мадэль чатырох апор, якія забяспечваюць стабільнасць «нашай краіны», прапанаваў АП у 2005 годзе (артыкул у часопісе «Наш современник» №12): «Па-першае, дынамічнае развіццё эканомікі, што дазваляе паляпшаць дабрабыт людзей. Па-другое, моцная і эфектыўная ўлада, якая не загразла ў карупцыі і працуе на карысць народа. Па-трэцяе, сфарміраваная дзяржаўная ідэалогія, якая аб'ядноўвае людзей і мабілізуе іх на пабудову квітнеючай дзяржавы. Па-чацвёртае, трывалыя асновы грамадзянскай супольнасці: канструктыўна настроеныя масавыя грамадскія арганізацыі (прафсаюзныя, моладзевыя, ветэранскія)».

Першая апора, падточаная эканамічным крызісам, звалілася ў канцы 2014 года. Не, эканоміка не страціла дынамікі. Папросту рост паказчыкаў змяніўся іх падзеннем, а паляпшэнне дабрабыту людзей — пагаршэннем.

Моцная і эфектыўная ўлада — гэта ўлада, якая ставіць перад сабой задачы і выконвае іх. Жалю вартыя вынікі праграмы мадэрнізацыі дзяржаўных прадпрыемстваў вядомыя. Не стану паўтарацца. Свежы прыклад — чарговая спроба дзяржавы прымусіць сябе любую знізіць колькасць праверак суб'ектаў гаспадарання. Для чытачоў, пазбаўленых з-за ўзросту задавальнення сачыць «ўжывую» за працай першага Усебеларускага народнага сходу ў 1996 годзе, прывяду адпаведную цытату: «Балючай праблемай стала вялікая колькасць кантралюючых органаў. Многія кіраўнікі скардзяцца, што іх замучылі праверкі: не паспее скончыць праверку адзін орган, як пачынае іншы, прычым часта па тых жа самых пытаннях».

Трэцяя апора — дзяржаўная ідэалогія. Чым скончылася спроба яе распрацаваць — добра вядома. Сам АП быў вымушаны прызнаць, што акрамя патрыятызму, нічога выключна нацыянальнага пакласці ў яе аснову не атрымалася. І не атрымаецца — дадам ад сябе. Любая ідэалогія павінна пачынацца з уяўлення пра будучыню. А якая будучыня ў «беларускай мадэлі», акрамя чарговага пераабрання АП на чарговы прэзідэнцкі тэрмін?!

Перачытайце трэці пункт. Ідэалогія патрэбна для мабілізацыі людзей на пабудову квітнеючай дзяржавы. Што тут мэта, а што сродак? Згодна з Канстытуцыяй, адзіным палітычным суб'ектам у нас з'яўляецца народ. Дзяржава — гэта ўсяго толькі інструмент, з дапамогай якога народ рэалізуе свае інтарэсы (нацыянальныя інтарэсы).

З чацвёртым пунктам тая ж гісторыя. Грамадзянская супольнасць па вызначэнні не можа быць апорай дзяржаве-інструменту, мэта існавання якой палягае ў аказанні паслуг. Каму? Грамадству, зразумела. Але дзяржава-інструмент — гэта паняцце з чужога нам свету, са свету «ліберальнай дэмакратыі», у якім грамадзянская супольнасць таму і называецца грамадзянскай, што авалодала дзяржавай, а не наадварот.

Сіла і эфектыўнасць сучаснай дзяржавы вызначаецца яе здольнасцю падтрымліваць стабільнасць. Задача развіцця — гэта задача грамадзянскай супольнасці. Не багі і не дзяржаўныя чыноўнікі павінны абпальваць гаршчкі і займацца мадэрнізацыяй прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі. Інакш, нягледзячы на жаданне зрабіць як лепш, атрымлівацца будзе як заўсёды.

## У рэжыме надзвычайнага становішча

Трансфармацыя дзяржавы-моста ў дзяржаву-востраў адбылася не праз памылку і не з нечага капрызу. «Беларуская мадэль эканамічнага развіцця» свой унутраны рэсурс вычарпала яшчэ ў 2006 годзе. На змену развіццю прыйшла дэградацыя.

На стадыі эканамічнага росту ўверх ішлі і рэальныя даходы насельніцтва. Адсюль натуральным чынам сфармаваўся кантракт паміж грамадствам і ўладай, які прадугледжвае абмен лаяльнасці першых на гарантыі росту даходаў з боку другіх. Да 2014 года не без праблем, але гэты кантракт выконваўся.

Новы кантракт — зрэшты, як і папярэдні, — быў сфармаваны «ад жыцця». Ён быў падказаны вайной на ўсходзе Украіны, якая дазволіла адсунуць рост даходаў на другі план і вылучыць на першы фізічнае выжыванне.

Для эфектыўнай працы новага кантракту патрэбна адмысловае асяроддзе. На афіцыйнай мове яго прынята называць надзвычайнае становішча. Востраў стабільнасці, акружаны з усіх бакоў міжнацыянальнымі і іншымі відамі канфліктаў, ідэальна падыходзіць для падтрымання надзвычайнага становішча на працягу доўгага часу.

Любая аўтарытарная ўлада, нават калі рэсурсаў больш чым дастаткова, схільная дрэйфаваць у напрамку надзвычайнага становішча. А тым больш гэта датычыць улады персаналісцкай. Пагрозы, адкуль бы яны ні зыходзілі, кансалідуюць грамадства і дазваляюць лідару з дапамогай падкантрольных СМІ паўстаць у вобразе выратавальніка, здольнага беспамылкова здалёк заўважаць небяспекі і вызначаць шляхі іх пераадолення.

Час звярнуцца да цытавання: «Новая рэальнасць складаецца ў тым, што практычна ў любых абставінах сучаснае грамадства тым устойлівейшае, а дзяржава-сервіс тым больш эфектыўнейшая, чым менш яна ўзнаўляе надзвычайныя здарэнні» (Іван Мікіртумаў, філосаф).

Тут на памяць прыходзіць анекдот пра ўскрыццё, якое паказала, што хворы памёр у выніку ўскрыцця. Стабільнасць «беларускай мадэлі» сёння знаходзіцца пад пагрозай. Сумнявацца ў гэтым не даводзіцца. Але генератар будучага хаосу знаходзіцца ўсярэдзіне гэтай мадэлі, а не па-за межамі.




# Інавацыйнасць у рэпрэсіях
## Справа антыфашыстаў

Мікалай ДЗЯДОК

**Ужо, здаецца, усім відавочна, што ні пра якую «лібералізацыю» казаць не даводзіцца. Перад страхам масавых пратэстаў улада зноў раскручвае хвалю рэпрэсій. Пакуль амаль кропкава і асцярожна. Але актыўнасць праваахоўных органаў у сферы палітычных рэпрэсій часам сапраўды здзіўляе.**

Мілітарныя арганізацыі апазіцыі былі разгромленыя яшчэ напрыканцы 1990-х гадоў, як, прынамсі, і моцныя палітычныя рухі. Колькасць радыкалаў усіх разнавіднасцяў — бадай, меншая, чым у любой з еўрапейскіх краін. Здавалася б, можна адпачываць, але гэта запатрабавала б скарачэння колькасці карнага апарату і, сярод іншых наступстваў, незадаволенасць вялікай колькасці звольненых сілавікоў.

Таму, каб не працаваць ухаластую, міліцыянты і КДБ працуюць на папярэджанне і б'юць па тых катэгорыях насельніцтва, якія яшчэ ніколі не былі ўцягнутыя ў пратэст, але могуць уцягнуцца ў яго калі-небудзь пры спрыяльных умовах. І ў гэтай сферы рэчаіснасць падкідвае чэкістам і іх сябрам з ГУБАЗіКу ўсё новыя выклікі.

Шмат чаму апаратыўнікаў навучыў Майдан. Ад самага пачатку вулічных пратэстаў (і асабліва баявых дзеянняў), істотным рухавіком яго былі футбольныя фанаты. Субкультура футбольных заўзятараў увогуле замешаная на гвалце і нянавісці да міліцыянтаў, таму на Майдане гэтыя якасці прыйшліся вельмі дарэчы. Супаставіўшы фактары і зразумеўшы, што беларускія «хулс» таксама настроеныя да ўлады, мякка кажучы, скептычна, рэпрэсіўныя структуры ўзяліся за іх распрацоўку.

Што характэрна, пад каток рэпрэсій трапілі ў аднолькавай ступені як ультраправыя фанаты, так і антыфашысты. І калі пра рэпрэсіі ў дачыненні да неанацыстаў прэса і праваабаронцы амаль не кажуць (што і не дзіўна — цяжка спачуваць таму, хто сам хоча палову свету адправіць у газавыя камеры), дык футбольныя фанаты-антыфа маюць якую-ніякую падтрымку. ГУБАЗіК і КДБ ж сваіх ахвяраў выбіралі не па палітычных поглядах, а па велічыні каляфутбольных груповак.

Самы раскручаны ў СМІ эпізод гэтых рэпрэсій — справа заўзятараў ужо не існуючага футбольнага клуба «Партызан». На лаве падсудных — шэсць чалавек, віну прызнае толькі адзін. Паводле матэрыялаў справы, яны ўчынілі бойку ў тралейбусе з фанатамі мінскага «Тарпеда». Таксама фігуруюць эпізоды аб наркотыках і незаконных арганізацыях. Неўзабаве павінны абвесціць прысуд. Падчас судовых спрэчак пракурор запрасіў для абвінавачаных да 12 гадоў пазбаўлення волі.

Нагадаем, 29 ліпеня 2014-га група футбольных фанатаў «Партызана» заблакавала тралейбус, у якім ехалі заўзятары «Тарпеда». Токапрыёмнікі тралейбуса былі зняты, а ў салоне распылены слезацечны газ. Бойка была нядоўгай, і ніхто з яе ўдзельнікаў сур'ёзна не пацярпеў. Праз некалькі дзён МУС паведаміў аб затрыманні 5 заўзятараў «Партызана». Усіх іх адпусцілі без прад'яўлення абвінавачанняў.

Але ў хуткім часе знешнепалітычная сітуацыя змянілася — і з апісаных вышэй прычын (Украіна) пра справу вырашылі ўзгадаць. Увосень 2015-га справу перадалі аддзелу ГУБАЗ па барацьбе з экстрэмізмам і аддзелу па цяжкіх справах (!) гарадскога следчага камітэту. Нагадаем: гаворка ідзе пра звычайную вулічную бойку, якія ў Мінску адбываюцца ледзь не штотыдзень.

У студзені 2016-га да праваабаронцаў звярнуўся хлопец, які паведаміў, што ГУБАЗаўцы ціснуць на яго ў сувязі з гэтай справай. Ён даў прызнальныя паказанні, але хутка ад іх адмовіўся. Таксама ў справе фігуруюць сведкі, затрыманыя за распаўсюд наркотыкаў (улічваючы, што гэты артыкул прадугледжвае да 15 гадоў пазбаўлення волі, можна зразумець, наколькі ахвотна такая асоба будзе сведчыць пра ўсё, што захоча следчы). Цягам наступных 7 месяцаў па справе затрымалі, прад'явілі абвінавачанні і адправілі ў СІЗА 4-х футбольных заўзятараў «Партызана». Дапытвалі дзясяткі.

Па словах праваабаронцы Анастасіі Лойка, па справе праходзіць сем пацярпелых, адзін з іх цяпер адбывае пакаранне за незаконны абарот наркотыкаў. Пацярпелыя заявы на абвінавачаных не пісалі. У судзе яны заявілі, што прэтэнзій да іх не маюць і прасілі строга не караць, максімум — даць папраўчыя работы.

Прадпрыемства «Мінсктранс» адмовілася ад грамадзянскага пазову, бо абвінавачаныя даўно згасілі нанесеныя страты.

На лаве падсудных — шэсць чалавек. Галоўным фігурантам з'яўляецца Ілля Валавік, фанат футбольнага клуба «Партызан» і антыфашыст па сваіх поглядах. Ён, паводле версіі абвінавачвання, быў кіраўніком шасці незарэгістраваных арганізацый, якія заклікалі да гвалту, і пасягаў на правы грамадзян. То бок дзеля такой справы ГУБАЗаўцы выцягнулі з пыльнай шафы падзабыты ўжо артыкул 193 прым — «Незаконная арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі альбо фонду, альбо удзел у іх», па якім у свой час судзілі Зміцера Дашкевіча. Вось некаторыя назвы «арганізацый»: «Хеўра», «Першая Кроў», «Red Hanters», «New school band». Гэта фанацкія групы ў сацсетках, але праваахоўнікі настойваюць, што Валовік, выкарыстоўваючы інтэрнэт, арганізоўваў ледзь не атрады байцоў, якія павінны былі змагацца з ідэалагічнымі праціўнікамі. Пракурор просіць даць Валавіку да 10 гадоў калоніі.

Вадзім Бойка — фігуруе як «дзёрзкі хуліган». Яму дзяржабвінаваўца запрасіў пакаранне ў выглядзе 4 гадоў пазбаўлення волі.

Таксама пад вартай знаходзяцца Арцём Краўчанка і Андрэй Чартовіч. Першага абвінавачваюць не толькі ў хуліганстве, але і ў захоўванні і распаўсюдзе наркотыкаў. Другога — толькі ў распаўсюдзе. На думку пракурора, ім варта прызначыць пакаранне ў выглядзе 12 гадоў пазбаўлення волі.

На волі знаходзяцца Зміцер Цехановіч і Філіп Іваноў.

Крымінальная справа налічвае 36 тамоў, абвінавачаныя ўжо больш за 10 месяцаў знаходзяцца пад вартай.

Але гэтая справа — толькі вяршыня айсбергу. Па маіх дадзеных, на гэты момант у турмах сядзяць не менш за 10 футбольных заўзятараў «Партызана». Спектр артыкулаў уражвае: ад ухілення ад выплаты падаткаў, да захоўвання наркотыкаў і распаўсюду парнаграфіі. Як мінімум частка гэтых спраў (як, напрыклад, справа з «распаўсюдам парнаграфіі») з'яўляюцца вынікам аператыўнай правакацыі.

Ці выпадкова, што шэрагам гэтых спраў займаюцца адны і тыя ж следчыя? Ды і арышты заўзятараў раптоўна пачаліся менавіта напрыканцы 2015 года, хаця папярэдніх 10 гадоў існавання клубу заўзятараў МТЗ-РІПА («Партызана») міліцыя ім амаль не цікавілася. Атрымліваецца, калі верыць афіцыйнай версіі, роўна да канца 2015-га ўсе яны былі законапаслухмянымі грамадзянамі, а пасля ператварыліся ў наркаманаў і хуліганаў.

Выснова напрошваецца сама: ГУБАЗу было дадзена заданне абезгалодзіць усе патэнцыяльна небяспечныя нефармальныя рухі, і галоўнае — зрабіць гэта так, каб іх ні ў якім разе не прызналі палітвязнямі. Трэба сказаць, пакуль беларускія сілавікі з задачай спраўляюцца.

Яшчэ адзін напрамак інавацыйнай дзейнасці рэпрэсіўнага апарату: так званыя «мяккія прысуды». Сутнасць гэтага метаду ў тым, каб аказаць максімальнае фізічнае і псіхалагічнае ўздзеянне на актывіста, але пры гэтым вынесці яму канчатковае пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі, і тым самым не даць Еўрасаюзу «зачэпак» для крытыкі. Тыповы прыклад такіх спраў: справы Эдуарда Пальчыса і Зміцера Паліенкі. Першага затрымалі за вядзенне антырасійскага сайту, пратрымалі ў СІЗА 10 месяцаў і пакаралі 1,8 гадамі «хатняй хіміі». Другога затрымалі нібыта за бойку з міліцыянтамі на пратэстнай акцыі «Крытычная маса», пратрымалі ў СІЗА 6 месяцаў і пакаралі 2 гадамі з адтэрміноўкай.

У абодвух выпадках назіралася радасць грамадзянскай супольнасці: далі мяккія прысуды! Лукашэнка спужаўся санкцый Еўрасаюзу! Пры гэтым неяк забываецца, што людзі правялі доўгія месяцы ў турме ў чаканні прысуду. Гэта — удар па псіхіцы, па здароўю, абарваныя сацыяльныя сувязі, а галоўнае — паказальны прыклад іншым патэнцыяльным змагарам: «Будзеце актыўнічаць — тое ж будзе і з вамі! Калі не атрымаеце тэрмін, то на Валадарцы дакладна памарынуецеся!»

А абодва прысуды — не што іншае, як кароткія паводкі, на якіх актывістаў трымаюць, каб звесці да нуля іх грамадзянскую актыўнасць. «Хатняя хімія» пасля трох парушэнняў рэжыму (якія пры неабходнасці выпісваюцца за лічаныя дні) ператвараецца ў калонію дзякуючы артыкулу 415 КК РБ (Ухіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе абмежавання волі). Тое ж самае і з адтэрміноўкай. За невыкананне «патрабаванняў суда», правіл прафілактычнага ўліку альбо два адміністрацыйныя правапарушэння два гады «адтэрміноўкі»ператвараюцца ў два гады калоніі. Рэдка хто пойдзе на вулічную акцыю ці будзе іншым чынам раздражняць сваіх кантралёраў, ведаючы, што яму пагражаюць два гады зняволення.

Фактычна, рэпрэсіўныя структуры дасягаюць эфекту пакарання калоніяй без самой калоніі. І пры гэтым усе задаволеныя! КДБ — тым, што актывістаў атрымалася выключыць з пратэстнага жыцця. Захад — «прагрэсам на шляху дэмакратыі». Грамадзянская супольнасць — «маленькай перамогай над рэжымам». Але парадаксальным чынам атрымліваецца, што ў перыяд «лібералізацыі» крымінальных спраў больш, чым у перыяд жорсткага закручвання гаек — ледзь паспяваеш запамінаць новыя прозвішчы...

Пакуль пісаўся гэты артыкул, стала вядома, што супраць Андрэя Бандарэнкі завялі новую крымінальную справу па артыкуле 411 КК РБ (Злоснае непадпарадкаванне адміністрацыі папраўчай установы) — за 4 месяцы да яго меркаванага вызвалення. Яму пагражае да 2 гадоў пазбаўлення волі — у дадатак да тых 2,5 гадоў, што ён ужо адсядзеў. У падтрымку Бандарэнка і Жамчужнага дагэтуль не выказаўся ні адзін прадстаўнік ЕС.

Нехта зноў усіх абыграў?

**Шчыра кажучы, упершыню ў жыцці сутыкнуўся з тым, што ўладальніца гэтага імені так прынцыпова ставіцца да падобных нюансаў. Дубянецкая прымае «Ірына» і не прымае «Іра», бо ў гэтых іменаў, аказваецца, розныя значэнні. «Ірына» ў перакладзе з грэчаскай — «мір», а «Іра» на лацінe азначае «гнеў». Часам яна так і кажа: «Не будзіце ўва мне Іру!» А яшчэ мне было вельмі прыемна адчуваць, што размаўляю з першай у беларускай гісторыі жанчынай, якая стала доктарам багаслоўя. А вось што пра сябе расказвае сама Ірына.**



**Я мяркую, што пакуль беларусы не зоймуцца сур'ёзнымі даследаваннямі не-Беларусі, яны і Беларусі не зразумеюць, і нікому цікавымі не будуць — нават сабе**

**Ірына Дубянецкая. Мінск. Верхні горад.** Фота Глеба Лабадзенкі

Аляксандр ТАМКОВІЧ

# Пачаткі Ірыны Дубянецкай

## Пачатак пачаткаў

Мой бацька, Міхал Дубянецкі, родам з Палесся — дакладней, са Століншчыны. У дзяцінстве ён быў кніжнікам, і культ кнігі ў яго застаўся навечна. І ягонае першае знаёмства з савецкай уладай пачалося праз кнігі, уражанне ад бальшавікоў ён захаваў на ўсё жыццё.

Гэта было ў верасні 1939 года. Бацька вучыўся ў кляштарнай школе ў Пневах, куды яго разам са старэйшым братам адправілі ў якасці ўзнагароды за выдатную вучобу. Калі прыйшлі чырвонаармейцы, дык адразу пачалі ўсталёўваць свой лад. Адной з першых дзеяў было разарэнне школьнай бібліятэкі. Магчыма, хацелі знішчыць польскія кнігі, а іншых там, відаць, і не было. У двары расклалі вогнішча і сталі кідаць туды кнігі. Дапытлівы чырвонаармеец хацеў ведаць, што ён паліць, а чытаць па-польску не ўмеў, і таму загадаў хлопцам агучваць аўтара і назву.

Выглядала гэта прыблізна так.

Малы з трапятаннем бярэ кнігу і чытае:

— Генрык Сянкевіч, «Ogniem i mieczem».

— Вось табе «ме́чэм»! — чырвонаармеец раздзірае кнігу надвое. — А вось табе «огнем», — і шпурляе яе ў вогнішча.

— Эліза Ажэшка, «Хам», — ледзь не плача хлопчык.

— Ты яшчэ і лаешся, падла?! — салдат радасна дзярэ кнігу і адпраўляе за першай…

Па вайне стала ясна, што Саветы — надоўга, і бацька вырашыў, што рабіць для сваёй краіны нешта карыснае ён зможа найлепей знутры сістэмы. Ён адслужыў у савецкім войску, скончыў Вышэйшую партыйную школу, працаваў у ЦК КПБ.

Пры гэтым ён ніколі не траціў свой унутраны супраціў. На ўсіх працах яго «рабочай моваю» — як ён сам гэта далікатна казаў — была беларуская. Неяк у ЦК зрабілі брашурку пра БССР для замежнікаў (на некалькіх мовах), а яму прапанавалі стаць яе афіцыйным «аўтарам». Ён спачатку адмовіўся, але потым пагадзіўся пад умовай «аўтарызацыі». І паўстаўляў у тэкст колькі рэчаў пра беларускую даўніну і культуру, якія там зусім не меліся на ўвазе…

Таксама з яго афіцыйнай рэкамендацыі Беларусі — адзінай з усіх савецкіх рэспублік — «дазволілі» выдаваць адкрытую (а не на 2–3 тамы, як мелася напачатку) акадэмічную серыю нацыянальнага фальклору.

З ЦК бацька вырваўся, каб займацца мілай яго сэрцу справаю — кнігамі. Ён стаў спачатку адказным сакратаром Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, а потым дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Былі гады, калі адна «Мастацкая літаратура» прадавала кніг болей за цэлыя рэспублікі. Казалі, што гэта, маўляў, пераважна за кошт дзіцячых кніжак, і ён паспрыяў стварэнню асобнага выдавецтва дзіцячай літаратуры — «Юнацтва».

У 1980-я гады быў у самым віры адраджэнскіх падзей, а ў 1988-м узначаліў новаўтвораны «Мартыралог Беларусі» і быў адным са стваральнікаў Беларускага народнага фронту. У тыя рамантычныя і змагарныя гады ён падтрымліваў парасткі новай беларушчыны, хаця даваліся яны вельмі і вельмі цяжка. Бясконцыя змаганні ў высокіх кабінетах, няспыннае супрацьстаянне сістэме падкасілі здароўе. Бацька перанёс два, як ён казаў, «сацыяльна-палітычных інфаркты» і інсульт.

Бацькава змагарнасць спалучалася з надзвычайнай унутранай мяккасцю, дабрынёй і вераю ў людзей. Дома былі тысячы і тысячы кніг. Ён казаў, што не выходзячы з нашай кватэры можна атрымаць некалькі вышэйшых адукацый.

## Пачатак сям'і

Маці, Марыя, таксама незвычайная асоба. Яна нарадзілася ў рэгіёне, частка якога цяпер уваходзіць у Добрушскі раён, але гэта колішні кавалак Браншчыны, які Саветы падзялілі паміж Гомельскай, Чарнігаўскай і Бранскай абласцямі. Калі маці было гадоў восем, яе маці «ўзяла» мужа з пяццю дзецьмі, бо дачушка паабяцала звацца яго татам і пароўну ўсё дзяліць з братамі і сёстрамі.

Айчым быў адзін з пяцёх братоў, якіх раскулачылі (адабралі ўсё дачыста, кінуўшы жонак з дзецьмі жабраваць) і саслалі на Салаўкі. Ён і там падняўся, пасля ссылкі на радзіму не вярнуўся, толькі прыехаў у сваю вёску, каб знайсці сабе жонку, а сваім сіроткам — маці. Пабраліся шлюбам і адразу з'ехалі чыгункаю на Кубань.

Маці яшчэ ў цягніку моцна пасябравала са сваёй новай сястрой Галяй, і праз усё жыццё яны захавалі надзвычайную блізкасць. Галя — гэта традыцыйнае свойскае імя для Ганны, як, зрэшты, і Марыяў там звалі Малямі, а пазней некаторых, у тым ліку і маю маці, «па-новаму» — Манямі.

Жыццё закінула цётку Галю на Далёкі Усход, у Хабараўскі край. Туды да яе перабралася і частка сям'і. І туды, у Хабараўскі медыцынскі інстытут, паступіла маці, якая паспела ўжо папрацаваць у фельчарскіх пунктах кубанскіх станіц. На той час ёй было ўжо 26 гадоў, што для першакурснікаў, мякка кажучы, не тыпова…

Пасля маці перавялася ў Мінск, куды перабралася і сям'я, скончыла вучобу і па размеркаванні паехала ў Ганцавічы, узначаліць раённую санстанцыю. Бацька на той час таксама працаваў у Ганцавічах у мясцовай газеце. Яны здымалі кватэры ў адным доме і пры сустрэчах ветліва віталіся. Маці з маёй бабуляй здымалі два пакойчыкі, бацька — адзін.

На нейкай супольнай імпрэзе да маці пачаў заляцацца хлопец і пайшоў праводзіць яе дахаты. І бацька пайшоў. Каля хаты спыніліся, і кожны чакае, каб другі сышоў. Але бацька там жыў і мог стаяць колькі заўгодна, і свайго суперніка «перастаяў». Той сышоў, а бацька пераможна сказаў ветліва: «Дабранач, Марыя Міхайлаўна».

А на раніцу сутыкнуўся з ёй на агульнай кухні і ветліва ж прапанаваў пайсці за яго замуж. Маці строга спыталася: «А вы ведаеце, колькі мне гадоў?» Ён адказаў: «Мяне гэта не цікавіць». У той жа дзень яны распісаліся… У ЗАГСе быў выходны, таму па загадчыку гэтай установы адмыслова ездзілі на матацыкле.

Мая старэйшая сястра, якую назвалі ў гонар цёткі Галінаю, нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску, куды перабраліся бацькі. Маме было тады 37 гадоў. Па тым часе — амаль неверагодна для першых родаў. І думала на гэтым спыніцца. Я нарадзілася праз два гады, дзякуючы настойлівасці бацькі (які моцна спадзяваўся на сына).

«Дэкрэт» тады быў толькі тры месяцы. Малую Галю глядзела бабуля, а маці бегала з працы яе карміць. Потым Галю аддалі ў садок, а зусім малую мяне — у яслі. Па начах маці пісала кандыдацкую дысертацыю. Пару разоў на тыдзень бабуля ў яе пыталася: «Ну, ты ўжо абаранілася?»

Маё ранняе дзяцінства прайшло на Камароўцы, дзе ў нас была адна з пяці кватэр у драўляным доме з пячным ацяпленнем, калонкай і прыбіральняй у двары. Бліжэйшым суседам быў Васіль Сёмуха, ён тады акурат перакладаў «Фаўста».

Калі мы пераязджалі ў новую хату, дзядзя Вася з сям'ёй перабраўся ў нашу кватэру. У яго мусіла нарадзіцца дачка, і мой дзіцячы ложак застаўся ёй. З Алесяй Сёмухай мы пазнаёміліся ўжо на моладзевых імпрэзах пачатку 1990-х, і хутка я ў яе на філфаку пачала выкладаць літаратуру.

Ад чатырох гадоў маё дзяцінства праходзіла на Нямізе, дакладней, на Паркавай магістралі, якая потым стала звацца праспектам Машэрава, а потым праспектам Пераможцаў (я так і не ведаю, пераможцаў чаго — ці то хакейных чэмпіянатаў, ці то школьных алімпіяд? Заўсёды было неяк сорамна называць свой адрас).



**Гуканне вясны і прымацаванне мемарыяльнай шыльды на будынак, дзе месціўся ўрад БНР**

### Пачатак працы

Пасля заканчэння школы я хацела стаць мастацтвазнаўцам, але ў Беларусі такой спецыяльнасці не вучылі, трэба было ехаць у Ленінград. Маці мяне не пусціла. Маўляў, з тваім здароўем ды ў такую сырую і халодную дзірку. І пагнала мяне ў апошні дзень прыёму падаваць дакументы ў Мінск — хоць куды, абы тут. Яна мроіла ўбачыць мяне хірургам — ну, ці хаця б архітэктарам.

І я паплялася на беларускае аддзяленне філфака БДУ. Як і сястра, школу я скончыла з залатым медалём, таму здавала толькі адзін іспыт і адразу паступіла. Адседзела неяк пяць гадоў, па выніку якіх была другою на курсе.

Па-сапраўднаму беларускую літаратуру я палюбіла і пачала сур'ёзна даследаваць на сваёй першай працы. У 1986 годзе я малодшым навуковым супрацоўнікам далучылася ў новастворaную Аб'яднаную дырэкцыю беларускіх літаратурных музеяў, якую я звала проста «аб'ядналаўка». Нашай далёкай задачаю было стварэнне Музея гісторыі беларускай літаратуры, а блізкай — выстава, прысвечаная літаратуры 1920–1930-х гадоў. Было надзвычай цікава. Тэма раней забароненая, большасць аўтараў амаль невядомыя, фантастычныя гісторыі маладых творцаў «Маладняку» і «Узвышша», растраляныя і высланыя паэты, скалечаныя лёсы і скалечаная свядомасць тых, хто застаўся. Вялікая радасць і вера, вялікія таленты, вялікая непапраўная трагедыя...

Выстава пад вялай назваю «Покліч» адкрылася гадоў праз шэсць ад пачатку працы, і доўга-доўга вісела ў новым будынку літаратурнага музея на вуліцы Багдановіча.

### Пачатак уласных праектаў

Навокал тады вІравала нацыянальнае абуджэнне. У Беларусі пачалі бруіцца культурніцкія, гістарычныя, адукацыйныя моладзевыя рухі.

Легендарная «Майстроўня» прайшла амаль міма мяне: я туды хадзіла ўсяго пару разоў і захапіцца не паспела. Затое з «Талакой» супрацоўнічала напоўніцу, хаця ніколі ў яе афіцыйна не ўваходзіла. Падчас працы ў музеі я пачала рабіць перадачы для радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная», якая пад кіраўніцтвам Жанны Літвіной смела падымала вострыя тэмы. Бадзялася па ўсім горадзе з велізарнай цяжкай скрыняю бабіннага «рэпарцёра» ды запісвала ці то «Талаку», ці то розных культурных герояў.

У 1987 годзе амаль не заўважаным прайшло 920-годдзе Менску—Мінска. Я зрабіла вялікую гутарку пра гісторыю горада з незабыўным Міколам Ермаловічам. У тым самым 1987-м актывісты пачалі ствараць беларускія класы: дакладней, збіраць подпісы бацькоў ды «апрацоўваць» школьныя дырэкцыі, і я запісала пра гэта перадачу. Яна атрымалася надзвычай складанай, як і лёс адной маёй гераіні — адзінай (!) на ўвесь Мінск беларускамоўнай вучаніцы Насты Лісіцынай.

Я тады пачала шчыльна сябраваць з прыгажуняй і разумніцай Каралінай Мацкевіч — маёй дагэтуль самай блізкай сяброўкай ды адзінай інтэлектуальнай напарніцай, а таксама з Сержуком Вітушкам, светлым анёлам нацыянальных рухаў.

На Другім Вальным сойме беларускіх суполак, які ўрачыста прагрымеў у Вільні на самым пачатку 1989 года, утварылася Канфедэрацыя беларускіх суполак, і Караліна была абраная яе каардынатарам. Разам з Алесяй Сёмухай яна пачала выдаваць газету Канфедэрацыі «Супольнасць». Караліна захацела завесці ў газеце «ўніяцкую бачынку», дзе б распавядалася рэлігійная гісторыя Беларусі, якую тады практычна ніхто не ведаў. Тэма Уніі як колішняй нацыянальнай царквы хвалявала тады многіх. Караліна сабрала разам мяне і Сержука Абламейку, які даследаваў гісторыю Уніі, і запатрабавала ад нас тэксты. Аднак цягам гутаркі высветлілася, што мы можам пацягнуць і самастойнае выданне. Вітушка прыдумаў стварыць суполку ТБМ «Унія» і прызначыць мяне яе кіраўніком. Мастак Гэнік Лойка намаляваў нам пячатку з ім жа вынайдзеным сімвалам Уніі — цярновым вяночкам пакуты і перамогі, мы зарэгістраваліся — і панеслася...

У лютым 1990 года мы даведаліся, што недзе 10 сакавіка ў Беларусь прыедзе з Лондану «сам» Аляксандр Надсан. Дзякуючы прапагандысцкім антыэміграцкім публікацыям мы ведалі, хто ён такі. Ведалі, што ён едзе па «чарнобыльскіх» справах з грузам лекаў, што ён быў адзіным чалавекам за мяжой, хто на ўвесь свет давадзіў, што Чарнобыль — гэта беларуская (а не толькі ўкраінская ці савецкая) трагедыя. Таксама мы ведалі, што ён быў галоўным беларускім уніяцкім святаром у свеце.

Цягнік айца Аляксандра прыходзіў з Варшавы ў Мінск каля чацвёртай раніцы. Ён асабіста ведаў у Мінску толькі айца Яна Матусевіча, а яшчэ па перапісцы — Алеся Гуркова. Спадзяваўся, што айцец Ян яго сустрэне. А на пероне ён убачыў, да свайго здзіўлення, велізарны натоўп з расцяжкамі «Чарнобыльскага шляху». І ледзь не самлеў, калі ўцяміў, што натоўп сустракае яго...

На наступны дзень ён адслужыў у касцёле на Кальварыі першую за Бог ведае колькі часу літургію ва ўсходнім абрадзе. Пасля паездкі ў чарнобыльскія рэгіёны, айца Аляксандра запрасілі на пасяджэнне «Талакі», і там мы папрасілі яго сустрэцца з намі.

Гэта для яго было яшчэ адным адкрыццём: даведацца, што ў Беларусі ёсць нейкія маладыя «ўніяты», якія імкнуцца выдаць часопіс «Унія». Сустрэчу ён нам прызначыў на сёмую гадзіну раніцы. Думаў хуценька з намі пабачыцца ды заняцца сваімі справамі. Потым мы гэта з ім згадвалі і рагаталі, асабліва калі ён засвоіў, што я а сёмай хутчэй пакладуся спаць, чым пачну новы дзень.

Алё тады мы рыхтаваліся ўсю ноч, нават дэфіцытных кілбасаў панабывалі, каб годна сустрэць госця, які аказаўся вегетарыянцам. З намі ён праседзеў да вечара, не ў змозе паверыць,



Злева направа: Айцец Аляксандр Надсан, Ірына Дубянецкая, Рафаэль Цо, Айцец Сяргей Стасевіч. Беларуская каталіцкая місія ў Лондане. Хрост Рафаэля Цо — хросная Ірына Дубянецкая. 2011 год



Злева направа: Караліна Мацкевіч, Ірына Дубянецкая, Адам Мальдзіс. 90-годзе Айца Аляксандра Надсана. Прэзентацыя яго «Псалтыра» ў самаперакладзе. Грэка-каталіцкі цэнтр Святога Язэпа, Мінск. 8 жніўня 2016 года



У цэнтры — Айцец Ян Матусевіч. Злева — Міхал Чарняўскі. 12 лістапада 1989 года. Ашмянскі раён, вёска Баруны. Адраджэнне ўніяцкай царквы

што мы ёсць і мы сапраўдныя. Наступны раз ён прыехаў на наша з Каралінай запрашэнне, каб 6 жніўня адсвяткаваць не толькі вялікае свята Перамянення Гасподняга, але і выхад «Уніі».

### Пачатак тэалогіі

Першы нумар часопіса выйшаў 6 жніўня 1990 года і быў прэзентаваны ў Доме літаратара. Такога аншлагу Дом літаратара раней не бачыў. Анатоль Сыс, які тады працаваў на беларускім тэлебачанні, прыцягнуў туды здымачную групу БТ. Мая мама потым казала, што ў яе мурашы пабеглі па скуры, калі заслона рассунулася, на сцэну выйшаў стромкі і прыгожы Андрусь Абламейка з запаленай свечкай і прачытаў «Ойча наш» па-беларуску, і што яна адчула, як стаіла дыханне перапоўненая зала, пачуўшы на савецкай сцэне малітву... Усё неяк склалася. Былі выступы, спевы, вершы, слайды, малітвы. Вітушка ўпершыню паказаў сваю батлейку, якая стала першай ластаўкай адраджэння традыцыі.

Караліна скончыла Наргас і вучылася там у аспірантуры. Але хацела павучыцца чаму-небудзь бліжэйшаму да патрэбаў часопіса, пажадана багаслоўю. Я пачала прасіць айца Аляксандра Надсана паспрыяць у гэтым. Ён задумаўся, пачаў перабіраць варыянты — Рым, Парыж... «А можа мне яе ў Лондан да сябе ўзяць?» І тут ува мне нешта грукнула, і я ледзь не прашаптала: «І я хачу». Так і перакулілася маё жыццё.

У кастрычніку 1992 года мы з Каралінай апынуліся ў Лондане. Без англійскай мовы, думалі на год, аказалася, на поўны курс навучання — і з працягам... Айцец Аляксандр адправіў нас у Лонданскі Місіянерскі інстытут, які даваў двухгадовую філасофскую і чатырохгадовую багаслоўскую адукацыю. Мы былі не толькі першымі жанчынамі, якія пачалі вучыць поўную багаслоўскую праграму, але і першымі свецкімі асобамі там наогул.

Апроч заняткаў мы мелі па дзве службы штодня — літургію і вячэрню — на Беларускай каталіцкай місіі, дзе мы і жылі. Айцу Аляксандру раілі накіраваць нас жыць у англамоўнае асяроддзе, каб мы аваладвалі англійскай, але ён трымаўся цвёрда: маўляў, не мову вучыць прыехалі, а працаваць дзеля Беларусі.

І мы працавалі.

Пасяліў ён нас спачатку ў пакойчык у славутай Скарынаўскай бібліятэцы, пра якую я яшчэ сваім студэнтам распавядала. Караліна потым перабралася ў суседні дом, а ў мяне ў бібліятэцы свой пакой быў 14 гадоў.

Мова прыйшла гады праз два, пасля чаго падскочылі нашы ацэнкі, і мы ператварыліся ў «лепшых вучаніц», і абедзве скончылі вучобу з найвышэйшаю адзнакай, «Suma qum laude».

Сярод велізарнага мноства багаслоўскіх дысцыплін мы з Каралінай абедзве абралі Біблію. Ці то Біблія нас абрала? Упрасілі выкладчыка гэбрайскай (менавіта так. — заўвага аўтара) мовы займацца з намі звыш адведзенага семестра, і апантана, на вялікіх перапынках, калі нашы калегі пілі гарбату, мы рабілі практыкаванні па гэбрайскай мове.

Пасля заканчэння Місіянерскага інстытута мы раз'ехаліся. Караліна паехала давучвацца ў Парыж, у Каталіцкі інстытут, а я — у Бельгію, у Лювенскі каталіцкі ўніверсітэт, да якога быў афіляваны наш лонданскі інстытут. Гэта безумоўна адзін з лепшых універсітэтаў Еўропы, са старымі традыцыямі, што доўжацца ад 1425 года. У Лювене я адвучылася яшчэ сем гадоў. Акадэмічным вынікам сталіся два магістраты, адзін ліцэнцыят і два дактараты. Сярод іх і тая мая навуковая ступень, якую — відаць, праз сваю пэўную экзатычнасць — найчасцей згадваюць у Беларусі: доктар сакральнай тэалогіі (хоць гэта стандартная назва эклезіястычнага дактарату ў багаслоўі).

14 гадоў замежных штудыяў ні на імгненне не замглялі цвёрдай веры, што я вярнуся ў Беларусь. У 2005 годзе, пасля апошняй абароны, я і вярнулася. Мяне сустрэла зусім не тая краіна, якую я ў свой час пакінула. Знайсці сабе прымяненне было надзвычай цяжка. Ну каму патрэбныя сакральныя веды Старажытнага Блізкага Усходу, калі ўся адукацыя завісла пад цяжарам ідэалогіі і перастала развівацца, выцясняючы з сябе ўсё «непрактычнае» ды «завумнае» ?

Я мяркую, што пакуль беларусы не зоймуцца сур'ёзнымі даследаваннямі не-Беларусі, яны і Беларусі не зразумеюць, і нікому цікавымі не будуць — нават сабе. Беларусь — інтэгральная частка сусветнай цывілізацыі.

Сёння Беларусь — адзіная краіна Еўропы, дзе няма сучаснага якаснага перакладу Бібліі на мову тытульнай нацыі. Парадокс: Францішак Скарына зрабіў пераклад падчас Рэфармацыі адным з першых, а ў XXI стагоддзе мы ўвайшлі апошнімі.

Гэта не азначае, што, калі мы перакладзем Біблію, сітуацыя зменіцца, але калі не перакладзем, то, напэўна, застанемся на перыферыі сусветнай культуры.

Хутка па вяртанні я пачала выкладаць у Беларускім Калегіюме, дзе з часам стала дырэктаркай, і ў віленскім ЕГУ — некалькі розных курсаў датычных Бібліі і Старажытнага Блізкага Усходу. А таксама пачала грунтоўныя паглыбленыя заняткі па Бібліі ў самастойнай Школе Бібліі, якая была спачатку проста «пры мне», потым пры Агенцтве гуманітарных тэхналогій, а потым — і дагэтуль — пры Лятучым універсітэце. Так што алгарытм майго жыцця застаўся той самы — вучыцца і вучыць.

**Фота з асабістага архіву Ірыны Дубянецкай**

10 сакавіка 2017 | № 9 (523) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Бязвіз далі — бязвіз забралі

Не паспела Грузія адсвяткаваць рашэнне ЕС пра адмену візаў для грамадзян краіны, як гэта рашэнне пагражаюць адмяніць. З ініцыятывай прыпыніць візавую лібералізацыю для Грузіі выступіў віцэ-прэзідэнт Еўрапейскай народнай партыі (ЕНП) і яшчэ шэраг еўрадэпутатаў. А ўсё з-за парушэнняў свабоды слова. Напярэдадні Вярхоўны суд Грузіі пакінуў у сіле рашэнне па вядучай апазіцыйнай тэлекампаніі «Руставі–2», якое было прынята ў судах дзвюх ніжэйшых інстанцый. Паводле вердыкту, «Руставі–2» вяртаюць аднаму з былых уладальнікаў, які цалкам лаяльна ставіцца да ўлады. Рашэнне Вярхоўнага суда канчатковае і не можа быць абскарджана. Улады Грузіі, якія лічылі «бязвіз» сваёй перамогай, атрымалі адчувальны ўдар. Цяпер ім трэба будзе пераканаць Еўрапейскі суд па правах чалавека ў тым, што судовае рашэнне па «Руставі–2» носіць выключна гаспадарчы характар. Інакш народ, які марыць пра бязвізавыя паездкі ў ЕС, папросту не прабачыць. Апазіцыя, у сваю чаргу, успрыняла навіны з Брусэлю як сігнал ды актывізацыі. Рыхтуецца буйная акцыя, якая, па словах арганізатараў, запусціць разбурэнне рэжыму ўрадавай партыі «Грузінская мара».

**Паводле грузінскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. Перамога апазіцыі

Як паведаміў венгерскі дзяржаўны тэлеканал, прэм'ер-міністр Венгрыі Віктар Орбан, мэр Будапешта і прэзідэнт Алімпійскага камітэту прынялі рашэнне аб адкліканні заяўкі на правядзенне летніх Алімпійскіх гульняў у Будапешце ў 2024 годзе. Афіцыйная прычына — краіне пагражала сур'ёзная страта прэстыжу, паколькі тэндар на правядзенне гульняў можа быць вельмі дарагі. Канкураваць з іншымі гарадамі-кандыдатамі — Парыжам, Лос-Анжэлесам і Рымам — шанцаў у Будапешта, маўляў, не было. Між тым, усе лічаць, што сапраўднай прычынай адклікання заявы стала кампанія апазіцыі, якая сабрала больш за 200 тысяч подпісаў за рэферэндум наконт заяўкі Будапешта на Алімпіяду. Паколькі кампанія вакол рэферэндуму магла аб'яднаць апазіцыю, Орбан карэнным чынам змяніў рыторыку. Праўда, свой канфуз прэм'ер кампенсаваў медыяатакай на апазіцыю. На навіну аб адкліканні алімпійскай заяўкі праўладная прэса адказала загалоўкамі ў стылі «Апазіцыя разбіла нашу алімпійскую мару».

**Паводле венгерскай прэсы**

### УКРАІНА. Усе савецкія законы адменяць?

Міністр юстыцыі Украіны Павел Пятрэнка заявіў пра намер ініцыяваць змены ў закон аб дэкамунізацыі, якія будуць прадугледжваць адмену дзеяння ўсіх нарматыўных актаў, прынятых у часы СССР. «Я звярнуся ў парламент, каб унесці адпаведныя змены ў закон аб дэкамунізацыі і прапісаць тое, што ўсе акты, якія прымаліся ў УССР або СССР, спыняюць сваё дзеянне», — заявіў ён. Сёння ва Украіне дзейнічае норма, якая сцвярджае, што ў прававым полі прымяняюцца нарматыўныя акты, якія прымаліся да 1991 года і не супярэчаць дзеючаму заканадаўству. Па словах Пятрэнкі, гэтая норма дазваляе круціць законамі як заўгодна. «Творчасць і таленты нашых бюракратаў такія, што яны ўмудраюцца выкарыстаць старыя савецкія акты і кажуць, што тыя сапраўды не супярэчаць заканадаўству, але дакладна дзейнаму заканадаўству не дапамагаюць», — лічыць міністр юстыцыі. Ініцыятыва кіраўніка Мінюста выклікала шмат спрэчак. З аднаго боку, у межах дэкамунізацыі гэта быццам бы лагічны крок. З іншага — адмяняючы адным махам законы УССР і СССР, якія дзейнічаюць зараз ва Украіне, адмяняецца і закон аб перадачы Крыму Украіне.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІТАЛІЯ. Венецыя ўводзіць візы?



Праўда, гэта хутчэй не візы, а пропускі. Іх будзе выдаваць сістэма рэгуляцыі турыстычнага патоку, якую прапанаваў губернатар правінцыі Венета. Такі чынам плануецца ўвесці ліміт колькасці турыстаў на дзень. Каб трапіць у гэты ліміт, трэба спачатку забраніраваць нумар у нейкім гатэлі Венецыі. Аднак права на візіт гэта не гарантуе. Сістэма браніравання будзе аддаваць прыярытэт тым, хто плануе застацца ў Венецыі з начлегам, удзельнікам канферэнцый і іншых мерапрыемстваў. Губернатар таксама заявіў, што ад наведвальнікаў гораду будуць прасіць заплаціць невялікую суму ў памеры 50 цэнтаў або адзін еўра, якая пойдзе на рамонт і захаванне гораду. Прапанова выклікала негатыўную рэакцыю, паколькі людзі баяцца, што акрамя турыстаў, якія здымаюць нумары ў гатэлях з 5-цю зоркамі, у горад ніхто не трапіць. Адміністрацыя Венета ў сваю чаргу абяцае, што ніякай дыскрымінацыі для незаможных турыстаў не будзе.

**Паводле італьянскай прэсы**

# «Бурштынавая народная рэспубліка»

Алег НОВІКАЎ



Фота www.korrespondent.net

**У суседніх з Беларуссю раёнах Украіны — новая серыя канфліктаў паміж нелегальнымі здабытчыкамі бурштыну і праваахоўнікамі. Украінскі журналіст Андрэй Манчук распавядае «Новаму Часу» падрабязнасці канфлікту, карані праблемы і магчымыя шляхі яе вырашэння.**

***— Украінскія медыя паведамляюць пра моцную сутычку ў Клесава. Што там здарылася?***

— У Клесава 3 сакавіка прыбыў спецназ, каб разагнаць капальнікаў, якія сваім помпамі размылі чыгуначны насып. Спецназаўцаў сустрэў узброены натоўп у 400 чалавек. У выніку паліцыя вымушаная была адступіць і, напэўна, слушна зрабіла. У верасні мінулага года каля таго ж Клесава натоўп невядомых наўпрост атакаваў сілавікоў. У якасці помсты Кіеў арыштаваў шэраг мясцовых чыноўнікаў, якія, па словах кіраўніка МУС, відавочна звязаныя са здабытчыкамі бурштыну. Цяпер чакаюць, што будзе далей.

***— На поўначы Украіны радовішчы бурштыну былі заўжды, аднак чаму праблема ў такіх памерах паўстала толькі зараз?***

— Сапраўды, пра бурштын ведалі даўно, аднак здабываць яго было небяспечна з пункту гледжання закона. Да часоў Майдану ўлада нейк кантралявала лясныя ўгоддзі. Пасля Майдану сілавая вертыкаль і рэшткі прававой сістэмы амаль зніклі. Акрамя таго, у здабытчыкаў з'явілася зброя з зоны АТА. Капальні ахоўваюць мілітарныя фармаванні, у якія спачатку запісваліся тыя, хто хаваўся ў лесе ад вайсковага прызыву ўлетку 2014-га. Ну і, нарэшце, апошні фактар — нечаканы выбух попыту на бурштын на велізарным кітайскім рынку. Гэта стала прычынай станаўлення сапраўднай галіны вытворчасці. Лічыцца, што яе ўладальнікі штогод нелегальна прадаюць за мяжу бурштыну на 300 мільёнаў долараў.

***— Як геаграфічна выглядае «Бурштынавая народная рэспубліка», як жартоўна называюць гэтую зону ў прэсе?***

— Бурштын залягае практычна па ўсёй паўночнай Украіне. Прычым адно з самых вялікіх радовішчаў знаходзіцца ў Міжгор'і, дзе была рэзідэнцыя Януковіча. Там нават знайшлі самы вялікі ва Украіне экзэмпляр бурштыну вагой у кілаграм. Аднак камень капаюць не паўсюль. Асноўныя арэалы здабычы — поўнач Жытоміршчыны і Валыні. З іншага боку, гэтая зона імкліва пашыраецца. Ужо дакладна вядома, што камень капаюць пад Чарнобылем. Праз кепскі стан эканомікі можна прагназаваць, што хутка да бурштынавай зоны дадасца і дэпрэсіўная Чарнігаўшчына. Дарэчы, здабытчыкі таксама глядзяць і на беларускае Палессе, багатае на гэты мінерал. Летась я ехаў аўтобусам з Украіны ў Мозыр і выпадкова чуў, як украінскія пасажыры ацэньваюць бурштынавая багацці Беларусі.

***— Што за прававы рэжым усталяваўся на тэрыторыі, якую, па сутнасці, кантралюе бурштынавы крымінал?***

— Гэта сапраўды асаблівы свет, які пачынаецца прыкладна ў 150 кіламетрах ад Кіева, дзе можна наткнуцца на блок-посты здабытчыкаў. Тут існуе спайка паміж крыміналам і карумпаванай уладай, якая «крышуе» бізнес і заплюшчвае вочы на беззаконне. Я на ўласныя вочы бачыў у кабінеце дырэктара СБУ па Валынскай вобласці партрэт Парашэнкі з бурштыну, што наўпрост супярэчыць украінскаму закону аб захаванні каштоўных мінералаў. Законы Украіны дзейнічаюць, аднак сітуацыйна, паколькі ў выніку ўсё залежыць ад бурштынавых баронаў. Часам іх выхадкі трапляюць на старонкі прэсы. Напрыклад, у Корасцені дачка мясцовага аўтарытэта са сваімі ахоўнікамі праз рэўнасць ледзь не забіла дзяўчыну-канкурэнтку. Падобныя «перагібы», натуральна, не падабаюцца людзям, аднак у прыярытэце — працоўныя месцы, якія забяспечвае здабыча бурштыну.

***— Усе кажуць, нібы хутка ва Украіне здымуць мараторый на продаж зямлі, што будзе азначаць прыход у краіну буйных зямельных кампаній. Ці могуць яны выкупіць «бурштынавыя плантацыі» і неяк нармалізаваць сітуацыю?***

— Бурштын спрабавалі здабываць прамысловым метадам яшчэ ў часы СССР. У тым жа Клесаве адкрылі цэх, аднак хутка закрылі. Капаць бурштын на Палессі з дапамогай машын абсалютна не выгадна, бо ён не залягае кампактна ў вялікіх памерах — як, напрыклад, у краінах Балтыі і Калінінградскай вобласці. Акрамя таго, здабыча палескага і валынскага бурштыну вядзе да адмоўных экалагічных наступстваў.

***— Палешукі, якія ў асноўным здабываюць бурштын, — субэтнас беларускага і ўкраінскага народаў. Ці можа фактычная аўтаномія рэгіёну набыць палітычную афарбоўку?***

— У прынцыпе, азначэнне «сепаратызм драўлян» (старажытнае славянскае племя, што жыло на Палессі) існуе, аднак як пагрозу яго не ўспрымаюць. Сваю лакальную ідэнтычнасць мясцовыя праяўляюць у разборках з львоўскімі і кіеўскімі бандамі, якія час ад часу жадаюць захапіць частку бурштынавага бізнесу. Палешукі лічаць, што бурштын павінен належаць выключна мясцовым. Магчыма, калі б паўстала тэма легалізацыі здабычы бурштыну, пытанне падаткаў у Кіеў стала б імпульсам руху за аўтаномію. Аднак у самім Кіеве ніхто не ведае, як можна заціснуць капальнікаў-нефармалаў у прававыя межы. Нейкія законапраекты ёсць, аднак у выпадку прыняцця яны наўрад ці будуць працаваць.

***— Шмат кажуць, што Украіне не пазбегнуць сцэнару, калі суседнія дзяржавы возьмуць «шэфства» над розными часткамі краны, каб у тым ліку дапамагчы навесці там парадак...***

— Сапраўды, нешта трэба рабіць. У сучаснай Еўропе, за выключэннем хіба што Косава ў 1990-я гады, не было такіх тэрыторый, якія б жылі па законах Дзікага Захаду. Акрамя таго, частка мясцовых жыхароў будзе толькі «за». Хапае людзей, якія з жахам глядзяць на тэмпы крыміналізацыі і сацыяльнай дэградацыі краю. Дастаткова ўзгадаць з'яву, калі падлеткі замест школ масава сыходзяць у капальнікі. Іншага варыянту, акрамя маштабнай вайсковай аперацыі, шмат хто не бачыць. Аднак які будзе эфект? Увядуць войскі, але што гэта вырашыць? Іншай працы няма, а рэсурсы бурштыну пакуль яшчэ далёка не вычарпаныя. Таму, баюся, усё абмяжуецца фарматам паліцэйскіх карных акцый.



Фота www.thejournal.ie

# Уся надзея на жанчын

Алег НОВІКАЎ

**У Паўночнай Ірландыі — палітычная рэвалюцыя. Упершыню ў гісторыі краю прабрытанскія партыі страцілі парламенцкую большасць, аднак пры гэтым паўсталі новыя рызыкі.**

Каб увесці чытача ў сутнасць праблемы, лепш за ўсё праецыраваць сітуацыю ў Паўночнай Ірландыі на нешта знаёмае. Напрыклад, уявіце, што ў Крыме якая-небудзь крымскататарская партыя атрымлівае прыкладна такую ж колькасць галасоў, як і мясцовая секцыя прамаскоўскай «Адзінай Расіі».

Натуральна, такі варыянт гучыць як фантастыка. Такой жа фантастыкай падавалася ўчора і перспектыва дамінавання каталікоў-рэспубліканцаў у парламенце Паўночнай Ірландыі. Лічылася, што пры ўсіх раскладах пратэстанцкая большасць у краі будзе галасаваць за родныя пратэстанцкія партыі, накшталт DUP (Дэмакратычная юніянісцкая партыя). Аднак на мінулым тыдні нечакана для ўсіх «Шын Фейн» (Sinn Féin) — вядучая партыя рэспубліканцаў — атрымала прыкладна столькі ж галасоў, як і пратэстанты. Больш за тое, разам з сацыял-дэмакратамі (іншымі рэспубліканцамі) ірландская фракцыя ўпершыню ў гісторыі мае большасць у парламенце.

Правал DUP і ўздым Sinn Féin тлумачаць шэрагам фактараў. Тут і пасіўнае стаўленне пратэстанцкага выбаршчыка да галасавання, і асабістая харызма Мішэль О'Ніл — 40-гадовай правадыркі нацыяналістаў (дарэчы, яна дачка баевіка тэрарыстычнай групоўкі IRA). Спасылаюцца на нейкія тактычныя памылкі піяршчыкаў DUP і жаданне электарату прадэманстраваць дулю цэнтральнаму ўраду, які падтрымлівае той жа DUP, за яго антысацыяльныя крокі.

Аднак існуе яшчэ адно цікавае тлумачэнне. Лічыцца, што Sinn Féin прыцягнула галасы праеўрапейскай фракцыі пратэстанцкіх партый, якія на рэферэндуме мінулага года падтрымалі выхад Вялікабрытаніі з ЕС. Формула «Вялікабрытанія па-за межамі ЕС» не падабаецца большасці насельніцтва, у тым ліку пратэстантам. Яе следствам будзе стварэнне сапраўднай мяжы з суседняй Ірландыяй, што негатыўна адаб'ецца на эканамічных паказчыках.

Такім чынам, стаўленне да ЕС, а не рэлігія, робіцца новым чыннікам вызначэння палітычных сімпатый выбаршчыкаў. Гэта можа стаць пачаткам дэфрагментацыі старой двухпартыйнай сістэмы і стварэння новага партыйнага спектру. «Мы назіраем канец прабрытанскай большасці», — пракаментаваў новы расклад Джэры Адамс, лідар Sinn Féin.

У новай сітуацыі геапалітычныя прапановы Sinn Féin прыходзіцца разглядаць усур'ёз. Што прапануюць рэспубліканцы? На іх думку, Паўночная Ірландыя павінна застацца як у складзе ЕС, так і ў складзе Вялікабрытаніі. Такі шпагат, безумоўна, азначае пашырэнне аўтаноміі Паўночнай Ірландыі. Будзе неабходны перагляд «саюзнай дамовы» Аб'яднанага Каралеўства, што патрабуе ўдзелу ўсёй палітычнай эліты.

Новая павестка ў палітычных дэбатах Белфасце яўна паўплывае на адносіны Лондана і Эдынбурга. Кіруючыя ў Шатландыі нацыяналісты на парозе абвяшчэння другога рэферэндуму пра выхад са складу Вялікабрытаніі. Раней яны паабяцалі правесці яго на працягу двух гадоў, аргументуючы гэта працэсам выхаду Брытаніі з ЕС. Як вядома, шатландцы таксама выказаліся за тое, каб быць грамадзянамі ЕС. Аднак канкрэтнай даты плебісцыту дасюль няма — праз унутрыпалітычныя спрэчкі. Фанатыкі незалежнасці змагаюцца з прагматыкамі, якія кажуць, што без фінансавай дапамогі з цэнтру Шатландыя па ўзроўні дабрабытуператворыцца ў нейкую балканскую краіну, а сама ідэя незалежнасці хутка згубіць прывабнасць. Поспех Sinn Féin можа ўзмацніць пазіцыі аматараў суверэнітэту.

Затое чуткі пра магчымы новы рэферэндум абурылі брытанскі ўрад Тэрэзы Мэй, якая заявіла, што захаванне Шатландыі ў складзе Брытаніі — яе асабістая місія. Паводле яе словаў, урад не падтрымае паўторны рэферэндум наконт незалежнасці Шатландыі. Ці рызыкне Нікола Сцёрджэн — лідар нацыяналістаў — абвясціць дату новага плебісцыту, будзе вядома напрыканцы месяца, калі адбудзецца партыйная канферэнцыя.

Яшчэ адна праблема для Лондану заключаецца ў няздольнасці рэспубліканцаў і пратэстантаў знайсці кампраміс наконт новай кааліцыі, якую, паводле Канстытуцыі, фармуюць вядучыя партыі грамадаў. Каменем перапоны з'яўляецца следства па схеме выкарыстання праграмы аднаўляльных крыніц энергіі. Менавіта праз тую праграму развалілася папярэдняя кааліцыя. Калі пат у кааліцыйных перамовах не ўдасца развязаць, то непазбежныя новыя выбары або ўвядзенне прамога кіравання з Лондану.

На першы погляд, няма нічога жудаснага ў тым, што краем будзе кіраваць камісар з Вестмінстэра. Тым больш, што прэцэдэнт ужо меў месца ў сярэдзіне 2000-х гадоў. Аднак тады не было крызісу, і канцэпцы радыкалаў выглядалі ўтопіяй. Пасля Brexit лічыцца, што цяпер у палітыцы магчыма ўсё. Так ці інакш, адносіны паміж камунамі ў выпадку прамога кіравання будуць больш напружанымі, а павага да дамовы 1998 года, якая ўсталявала мір у рэгіёне, будзе больш слабай.

Цікава, што на фоне ўсяго пералічанага негатыву надзея на лепшае захоўваецца. Імя гэтай надзеі — прырода жанчыны. Брытанская прэса ўсур'ёз піша, што нясхільнасць жанчынаў да канфліктаў дапаможа кабетам — лідарам пратэстантаў і рэспубліканцаў, — знайсці кансенсус наконт фармату новага ўраду. На ўсё ў іх ёсць толькі тры тыдні.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Хосні Мубарак



Былы прэзідэнт Егіпта, які раней быў асуджаны за забойствы дэманстрантаў падчас пратэстаў 2011 года, апраўданы. Рашэнне касацыйнага суда: экс-дыктатар не вінаваты.

Відавочна, што працэс над Мубаракам быў абсалютна палітычным. З тых часоў, як ваенныя ў 2013 годзе зноў захапілі ўладу ў Егіпце і краіна вярнулася ў дарэвалюцыйныя часы (цэнзура, пераслед ісламістаў і лібералаў), вызваленне Мубарака стала толькі справай часу. Апраўдальны прысуд з'яўляецца сімвалічным фіналам егіпецкага «смутнага часу». Праз шэсць гадоў пасля «арабскай вясны» ўсё вярнулася да ранейшага, толькі ў крыху горшым варыянце, паколькі за гэты час эканамічная сітуацыя пагоршылася.

Трэба адзначыць, што мясцовая дэмакратычная грамадскасць амаль не адрэагавала на відавочна кан'юнктурнае рашэнне суддзяў, што вельмі дзіўна. У той час, як Мубарака вызваляюць, большасць лідараў рэвалюцыі 2011 года з моладзевых і рэлігійных груповак сёння знаходзяцца ў турме. Гэта, дарэчы, амаль 60 тысяч чалавек. Адзіным бальзамам на душу для дэмакратаў з'яўляецца тое, што Хосні Мубарак (нарадзіўся ў 1928 годзе) — вельмі стары чалавек і наўрад ці вернецца ў палітыку. Застаецца дадаць, што ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць адна загадка. Суд прыняў рашэнне паралельна афіцыйнаму візіту ў Каір Ангелы Меркель, якая, відавочна, ведала пра такі план.

### Андрэй Клычкоў



Учора яшчэ малавядомы за межамі Масквы дэпутат мясцовай гарадской Думы прачнуўся знакамітым пасля таго, як яго кандыдатуру на пасаду мэра Масквы падтрымаў Аляксей Навальны.

«Мне здаецца, што самы моцны кандыдат — Клычкоў, ад камуністаў», — заявіў Навальны, і дадаў, што, на яго думку, у камуністаў больш шанцаў на перамогу, чым у прадстаўнікоў апазіцыйнай партыі «Яблоко». Пры гэтым Навальны таксама заявіў, што адмовіць у падтрымцы магчымаму кандыдату ад «Яблока», экс-дэпутату Дзяржддумы Дзмітрыю Гудкову.

Падтрымку на адрас камуністаў Навальны тлумачыць тактычнымі задачамі: «Перамагчы кандыдата ад «Адзінай Расіі» настолькі важна, што можна і трэба аб'яднацца з камуністамі».

Што тычыцца Клычкова, то ён яўна ўсцешаны словамі Навальнага. «Я не прасіў пра такую падтрымку. Але мне прыемна чуць ад маіх палітычных апанентаў, што людзі рэальна ацэньваюць мае палітычныя балы і аўтарытэт у Маскве», — заявіў Клычкоў. Праўда, дасюль не вядома, ці будзе ліберальны электарат Навальнага (у 2013-м ён атрымаў 27 працэнтаў на выбарах мэра) галасаваць за камуніста.

Так ці інакш, выбары мэра Масквы пройдуць увосень. Што тычыцца асобы Клычкова, то гэта тыповы кар'ерыст-апаратчык. Праўда, у яго біяграфіі ёсць кур'ёз. Неяк дэпутаты-жырыноўцы заклікалі ФСБ арыштаваць Клычкова, бо той, быццам бы, працуе на брытанскую разведку.

### Есе Клавер



Нечакана для ўсіх гэты 30-гадовы эколаг, нідэрландскі палітык, адзін з лідараў партыі «Зялёныя Левыя» стаў сімвалам пратэсту супраць магчымай перамогі на парламенцкіх выбарах 15 сакавіка еўрафобскай «Партыі свабоды».

Тое, што Клавер стаў своеасаблівым лекам ад папулістаў, тлумачыцца не толькі тым, што яго бацька — эмігрант з Марока (менавіта эмігрантамі з Марока папулісты палохаюць электарат). Выбарчая кампанія «Зялёных Левых» не падобная на ксенафобскую агітацыю іншых партый. Замест таго, каб пужаць выбаршчыкаў імігрантамі, эколагі намагаюцца заклікаць да талерантнасці. Такі піяр-прыём дазволіў «Зялёным Левым» — далёка не самай буйной партыі — нечакана стаць адным з лідараў выбарчай гонкі. «Зялёныя» могуць больш чым у тры разы павялічыць сваю парламенцкую квоту па выніках галасавання.

Не выключана, што ў выпадку фармавання новай урадавай кааліцыі якраз Клаверу будзе прапанавана пасада прэм'ера. На думку палітолагаў, ён увасабляе не толькі пратэст супраць ксенафобаў, аднак і новую генерацыю палітычных лідараў. Шмат хто звяртае ўвагу, што абрэвіятура поўнага імя і прозвішча Клавера — Jesse Feras Klaver — гучыць як JFK. Як вядома, гэта таксама абрэвіятура поўнага імя і прозвішча прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі, які ў свой час адкрыў новую эру ў амерыканскай палітыцы.


Эрвін Кашмідэр

# Эрвін Кашмідэр — апякун беларускіх студэнтаў

Сяргей ЧЫГРЫН

**У адпаведнасці з Рыжскай мірнай дамовай ад 18 сакавіка 1921 года, Заходняя Беларусь адышла да Польшчы. Польшча павінна была забяспечыць свабоднае развіццё беларускай культуры, мовы, даць мажлівасць арганізоўваць беларускія школы — як пра гэта гаварылася і ў Канстытуцыі Польшчы ад 21 сакавіка 1921 года.**

Аднак на справе гэта не выконвалася. Улады Рэчы Паспалітай, наадварот, займаліся дыскрымінацыйнай палітыкай да насельніцтва Заходняй Беларусі.

Найбольш дыскрымінацыя закранула асвету, навуку і культуру. 31 ліпеня 1924 года ў сейме быў прыняты закон, у адпаведнасці з якім асноўным тыпам школы навучання стала двухмоўная. Школы нацыянальных меншасцей зачыняліся, і ў выніку ў Заходняй Беларусі працавала 4421 агульная польская школа.

Беларускіх жа школ у 1934 годзе засталося толькі 16. У 1938–1939 навучальным годзе іх не стала зусім. Дзейнічала толькі адна беларуская гімназія ў Вільні, і не было ні адной беларускай вышэйшай навучальнай установы.

Аднак і ў такіх неспрыяльных умовах насельніцтва Заходняй Беларусі імкнулася развіваць сваю асвету, навуку і культуру. Юнакі і дзяўчаты хацелі вучыцца, яны паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Варшавы, Коўна, Прагі, Вільні. Там яны стваралі беларускія арганізацыі, таварыствы і саюзы.

1 снежня 1921 года ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя стварыўся Беларускі студэнцкі саюз (БСС). За ўвесь час існавання сябрамі БСС лічылася каля 300 студэнтаў, куратарамі БСС былі вельмі паважаныя прафесары. З першага дня і да сярэдзіны 1932 года Беларускім студэнцкім саюзам апекаваўся прафесар неўралогіі Станіслаў Уладычка. Але падчас унутранага ідэалагічнага крызісу ў саюзе ён адмовіўся ад куратарства. З чэрвеня 1932 года да сярэдзіны 1939 года функцыі куратара выконваў нямецкі славіст, філолаг, музыкант, прафесар Эрвін Кашмідэр (1896–1977).

Эрвін Кашмідэр аддана любіў беларускіх студэнтаў у Вільні, а яны былі ад яго ў захапленні. Прафесар шчыра апекаваўся ўсімі справамі беларускай моладзі, прыкладаў шмат намаганняў, каб паміж студэнтамі ў канфліктных сітуацыях знаходзіць кампраміс, паразуменне і выйсце, якія часам узнікалі сярод асобных сябroў і сярод арганізацый.

Будучы доктарам славістыкі, Эрвін Кашмідэр мог нават з навуковых падыходаў разглядаць беларускае пытанне. Ён заўсёды і вельмі актыўна наведваў розныя студэнцкія беларускія мерапрыемствы, пасяджэнні праўлення арганізацыі, перажываў і радаваўся праблемам і поспехам беларускіх студэнтаў. Ён любіў фатаграфавацца з беларусамі, таму да сённяшніх дзён захавалася з віленскага перыяду другой паловы 1930-х гадоў шмат здымкаў, дзе беларусы — разам са сваім любімым куратарам.


**Злева направа сядзяць Эма Залкінд, Эрвін Кашмідэр, Марыя Мілюць, Станіслаў Станкевіч. Стаяць злева направа Янка Хвораст, Мар'ян Пецюкевіч і Хведар Ільяшэвіч, 1932 г.**

Кашмідэр вельмі сімпатызаваў поглядам беларускіх студэнтаў, заўсёды праяўляў цярпенне і непрадузятасць у розных ідэйных спрэчках. Яго рашэнні прызнаваліся большасцю сяброў Беларускага студэнцкага саюза аб'ектыўнымі і справядлівымі.

Да беларускай моладзі прафесар ставіўся з цеплынёй і светлымі пачуццямі. Ён адчуваў час і добра ведаў тыя ўмовы, у якіх жылі і вучыліся беларускія хлопцы і дзяўчаты. Куратар ніколі не парушаў студэнцкага самакіравання і не ўмешваўся ў самадзейную працу студэнтаў. Але ён ім дапамагаў, прапаноўваў, абараняў. Апекаваў Эрвін Камшідэр не толькі студэнтаў Віленскай беларускай гімназіі, але і Віленскага ўніверсітэта. У 1931 годзе там паўстала «Таварыства прыяцеляў беларусаведы». А праз два гады гэта таварыства было зацверджана сенатам універсітэта. Яго куратарам таксама быў прызначаны Эрвін Кашмідэр.

Антон Шукелойць прыгадвае: «Па славянскай філалогіі прафесарам быў немец Кашмідэр, якога палякі запрасілі ва ўніверсітэт. Вялікі прыяцель беларусаў, ён быў апекуном нашых беларускіх арганізацый ва ўніверсітэце. Усе арганізацыі ва ўніверсітэце мелі сваіх апекуноў, якія перад адміністрацыяй універсітэцкай былі адказныя за дзейнасць дадзеных арганізацый. У гімназіі я вучыў французскую мову і нават матуру здаваў з французскай. Калі паступіў на філалогію, прафесар Кашмідэр сказаў: «Як вы будзеце з філалогіяй, калі не ведаеце нямецкай мовы?» У тыя міжваенныя часы найвышэй славянскія навукі існавалі ў Нямеччыне. Асноўная граматыка на славянскай мове — гэта лексіка. Таму мусіў я вывучаць нямецкую мову, як лектарат. Гэта не тое, што ў гімназіі. Тут іе вывучалі, каб карыстацца навуковай літаратурай. Ва ўніверсітэце я быў на сваім месцы. Этнаграфію я студыяваў. Потым прафесар перацягнуў на этнаграфію яшчэ цэлы шэраг людзей, якіх ён ведаў: найперш, літоўца Ёзаса Альдуліса, камуніста, ён выцягнуў яго з турмы. Пасля з прыродазнаўчага факультэта перацягнуў Цітовіча...»

Эрвін Кашмідэр (і гэта немалаважны факт) з беларускімі студэнтамі заўсёды размаўляў па-беларуску. Ён добра ведаў беларускую, польскую, украінскую, рускую мовы. Як піша гісторык Уладзімір Ляхоўскі ў сваёй кнізе «Ад гоманцаў да гайсакоў», Кашмідэр у 1937–1938 навучальным годзе на кафедры славянскай філалогіі Віленскага ўніверсітэта распрацаваў 20-гадзінны спецкурс беларускай мовы, які чытаў студэнтам свайго аддзялення. Ён шчыльна супрацоўнічаў у гэтым пытанні з Янкам Станкевічам, які меў на гэтым аддзяленні лектарат беларускай мовы.

Добра і шчыра прыгадваў пра Эрвіна Кашмідэра і беларускі грамадскі актывіст у тыя часы ў Вільні Мар'ян Пецюкевіч. Пецюкевіч згадаў, што прафесар Кашмідэр некалькі гадоў быў дырэктарам Дзяржаўнай бібліятэкі імя Урублеўскіх у Вільні. Мар'ян Пецюкевіч туды дастаўляў беларускую літаратуру з БССР. «Эрвін Кашмідэр не хадзіў мне па пятах, што і давала мне недагі «падкормліваць» сваіх нелегальных чытачоў савецкай літаратурай. Але за пару гадоў перад пачаткам Другой сусветнай вайны становішча пагаршалася і змушала мяне да большай асцярожнасці», — пісаў Пецюкевіч у сваіх успамінах пра Віленскі музей, якія былі апублікаваны ў часопісе «Спадчына».

У Вільню Эрвін Кашмідэр трапіў з Вроцлаўскага ўніверсітэта. Аднойчы прафесар Атрэмскі, вучань Карскага, пачуў на славянастычным з'ездзе даклад дацэнта Кашмідэра па польскай граматыцы (стылістыцы) і запрасіў яго выкладаць славянскую філалогію ў Вільню. Кашмідэр пагадзіўся. Да гэтага запрашэння немец вывучаў класічную філалогію, славістыку і санскрыт у Вроцлаўскім універсітэце. Там абараніў доктарскую дысертацыю.

У 1938 годзе Кашмідэра тэрмінова адклікалі з Вільні, і ён выехаў у Нямеччыну. Падчас вайны яго мабілізавалі ў нямецкую армію афіцэрам сувязі. А калі вярнуўся з вайны, жыў у Мюнхене. У Мюнхенскім універсітэце ўзначальваў кафедру славянскай філалогіі на філасофскім факультэце. Там і адпрацаваў да пенсіі. Быў сябрам Баварскай акадэміі навук, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Аўстрыі.

Кашмідэр усё жыццё шчыра любіў беларусаў і ўкраінцаў. З украінцамі ён наладжваў розныя навуковыя канферэнцыі, сустрэчы, прэзентацыі. Ім напісана шмат даследчых прац, у якіх ніколі не мінаў беларусаў і беларускай мовы. Пра прафесара заўсёды пісалі, што ён на сваёй пасадзе і, дзякуючы сваім навуковым працам, набыў вялікі давер. Ён даследаваў скрыжаванне літоўскіх, беларускіх і польскіх інтэлектуальных плыняў...

Пасля таго, як Кашмідэр пакінуў Вільню, рашэннем сената і рэктара Віленскага ўніверсітэта ад 23 чэрвеня 1939 года куратарам беларускіх студэнтаў у Вільні быў прызначаны мастак Ежы Гапен — дацэнт факультэта мастацтваў гэтага ўніверсітэта. Але пан Гапен не змог так, як Кашмідэр, унікнуць у справы беларускіх студэнтаў і свядома паўплываць на іх.

Дый хутка пачалася Другая сусветная вайна.


**Беларускі студэнцкі саюз. У другім радзе чацвёрты справа Эрвін Кашмідэр, 1930-я гады**

**Фота з архіву аўтара.**



Сінагога ў Вілейцы


Сінагога ўАзёрах


**Сінагога ў Любані.** Фота Аляксея Друпава, 2015 г.

# Чужыя «рускаму жыццю»

Ігар ІВАНОЎ

**Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай разам з беларускімі тэрыторыямі імперскаму ўраду дасталіся ў спадчыну адметнасці былога права. Новай з'явай для расійскага заканадаўства стала мястэчка — не вядомы да таго тып паселішча, які лічыўся чужым «рускаму жыццю».**

## Мястэчка

За стагоддзі гісторыі большасць мястэчак увабралі ў сябе рысы мінулых эпох, занатаваных у абліччы культавай архітэктуры, планіроўцы гандлёвай плошчы, шараговай грамадскай забудове. Яны арганічна злучылі элементы гарадскога і сельскага асяроддзя, што праяўлялася ў планіроўцы ды забудове паселішча і гаспадарчых занятках насельніцтва.

У часы ВКЛ многія мястэчкі былі прыватнаўласніцкімі. Яны ўтвараліся яшчэ з XV–XVI стагоддзяў як месцы правядзення таргоў. Каб садзейнічаць эканамічнаму росту на сваіх землях, уладары запрашалі на іх яўрэяў, ведаючы пра іх досвед у гандлі і грашовых аперацыях. Яўрэі са старажытных часоў насялялі беларускія, літоўскія, украінскія мястэчкі, яўрэйская культура і традыцыі з'яўляюцца адметнай старонкай гарадской гісторыі, што на стагоддзі прадвызначыла знешні выгляд паселішчаў і местачковы каларыт.

Мястэчкі з'яўляліся і рэлігійнымі цэнтрамі акругі. У іх структуры абавязкова існавалі культавыя пабудовы: царква, касцёл, мячэць, сінагога, якія адыгрывалі важную ролю ў фарміраванні прасторы паселішча. Найбольш распаўсюджаным для беларускіх мястэчак быў «трохкутнік»: царква — касцёл — сінагога. І сёння, калі набліжаешся да мястэчка, здалёк можна пабачыць сілуэты шпіляў касцёла і царквы, зрэдку — рэшткі сінагогі, апошняга напаміну пра выкраслены з гісторыі народ, чужы і адначасова блізкі нашым продкам.

## Сінагога: дом сустрэч

Сінагога была важным будынкам для яўрэйскай грамады, выкарыстоўвалася не толькі для адпраўлення культу, але і ў якасці месца збору і абмеркавання важных пытанняў, што стаялі на парадку дня, навін і проста чутак. У залежнасці ад колькасці яўрэяў, сінагог у мястэчку магло налічвацца да дзясятка і больш.

І цяпер на тэрыторыі Беларусі захавалася каля сотні будынкаў сінагог, з якіх толькі шостая частка мае статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Амаль усе захаваныя сінагогі каменныя. Але яшчэ да Другой сусветнай вайны ў Беларусі існавалі драўляныя сінагогі — унікальныя архітэктурныя аб'екты, што былі распаўсюджаныя ва Усходняй Еўропе.

Драўляныя сінагогі будаваліся па ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай, а пасля далучэння да Расійскай імперыі — у раёнах мяжы яўрэйскай аселасці. У XIX стагоддзі яўрэі ўжо заходніх губерняў Расійскай імперыі выступалі за выкарыстанне на патрэбы будаўніцтва дрэва як больш таннага і даступнага ў параўнанні з цэглай матэрыялу. Варыятыўнасць архітэктуры сінагог была досыць вялікай: яны вылучаліся сярод іншых пабудоў формай дахаў, масіўнасцю, якая вынікала з вялікага аб'ёму галоўнай залі, складанасцю дахавай сістэмы. Многія з іх былі сапраўднымі творамі мастацтва.

Ваенныя разбурэнні, шматлікія пажары прывялі да таго, што найбольш ранняя з вядомых драўляных сінагог датуюцца XVII стагоддзем. Галоўныя залі ў іх мелі квадратную форму, часцей за ўсё абмяжоўваліся памерамі 10–12 метраў (без уліку сенцаў і знешніх прыбудоў). Адметнай рысай у будаўніцтве драўляных сінагог было аб'яднанне залі і дахавай сістэмы ў адзіны канструкцыйны ўклад. Шмат'ярусныя, ламаныя дахі драўляных сінагог XVII–XVIII стагоддзяў нагадвалі сваім знешнім выглядам старазапаветную Скінію.

Раннія драўляныя сінагогі, найчасцей, мелі адну залю, якая аддзялялася ад галоўнага ўваходу невялікім пакойчыкам — накшталт сенцаў — з-за патрабаванняў Талмуда, які сцвярджаў, што ўваход у сінагогу ажыццяўляўся праз двое дзвярэй. Жаночыя галерэі і іншыя элементы, неабходныя яўрэйскай абшчыне, з'явіліся пазней, на мяжы XVII–XVIII стагоддзяў. Галоўная вось будынка праходзіла ў кірунку «ўсход-захад». Усходняя сцяна, дзе знаходзіўся Каўчэг Запавету (арон-кадэш), не абцяжарвалася ніякімі прыбудовамі, а ўваход у сінагогу быў з заходняга боку.

Архітэктура сінагог XVII–XVIII стагоддзя развівалася пад уплывам барока, што прагнялася, у асноўным, у пластыцы формаў (крывалінейныя франтоны, пілястры, карнізы). Найбольш яскравым прыкладам з'яўлялася сінагога ў мястэчку Воўпа. Для сінагог таго часу было характэрна дамінаванне галоўнай залі, пакрытай шматузроўневай ламанай страхой, над іншымі прыбудовамі. На тэрыторыі Беларусі гэта сінагогі ў мястэчку Нароўля, Кажан-Гарадок, Мсціслаў, Пінск. У гэтых будынках вылучаўся галоўны фасад, жаночыя галерэі працягваліся ўздоўж паўднёвай і паўночнай сцен, у іх можна было патрапіць праз маленькія дзверы. Сенцы і бабінец прыкрывалі шэрагі невялікіх двухсхільных або аднасхільных дахаў. Заходнія куты ў найбольш архітэктурна развітых сінагогах былі аддзелены ў двухпавярховыя алькежы разнастайных формаў. Хутчэй за ўсё, з'яўленне алькежаў у сінагогах — гэта запазычанне з архітэктуры шляхецкіх маёнткаў, дзе, у сваю чаргу, яны з'явіліся пад уплывам барока.

## Уплыў імперыі на архітэктуру

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай яўрэйскае насельніцтва далучаных да Расійскай імперыі тэрыторый апынулася пад новай уладай, дзе панавалі іншыя падыходы ў будаўніцтве.

**У справаводстве Расійскай імперыі тэрміны «школа» і «сінагога» часта былі сінанімічныя. Невялікі малітоўны дом называлі «малітоўная школа», ці проста «школа». Назва магла паходзіць ад «shul» — так на ідыш называлі сінагогу**

У адносінах да грамадскіх будынкаў адной з дамінуючых умоў станавілася пажарная бяспека, як вынік — павялічваецца колькасць мураваных сінагог. Для новых будынкаў складаўся шэраг правілаў, замацаваных у Будаўнічым і Пажарным статутах Расійскай імперыі. Сінагогу дазвалялася будаваць на адлегласці не менш за 50 сажняў ад хрысціянскай царквы, калі будынкі знаходзіліся на розных вуліцах, і 100 сажняў — калі на адной. План сінагогі замаўлялі ў архітэктара, пасля ён зацвярджаўся будаўнічай камісіяй.

Сінагогі мусілі адпавядаць і агульным патрабаванням, якія тычыліся грамадскай і прыватнай забудовы: будаўніцтва не менш чым у 4 сажнях ад суседняга будынка, пакрыццё страхі дазволеным матэрыялам — дранка, гонта, дахоўка. Увага надавалася пажарнай бяспецы і пры складанні печы, заўвагі на гэты конт можна сустрэць у дакументах губернскіх праўленняў.

У перыяд Расійскай імперыі адміністрацыяй здзяйсняліся захады па абмежаванні свабоды ў адносінах да яўрэяў — гэта адбілася на матэрыяльным узроўні абшчыны. Перавага ў архітэктуры сінагог пачала аддавацца больш танным, тыповым рашэнням. Панаванне складаных барочных формаў саступае класічным простакутным залам з сенцамі і бабінцам над імі, дахі пазбаўляюцца зводаў, іх будаўніцтва пераходзіць на звычайную кроквенную сістэму з двухсхільнай, вальмавай, або мансарднай, страхой. Вялікія ламаныя аб'ёмы замяняюцца простымі аднаўзроўневымі. Зала, сенцы і бабінец будаваліся на аднолькавай вышыні ў адным аб'ёме, перакрытым агульным дахам. Найбольш бедныя сінагогі ўвогуле архітэктурна не выдзяляліся з шараговай местачковай забудовы.

Архітэктура сінагог XIX — пачатку XX стагоддзяў звычайна мае шэраг вызначальных рысаў: будынак простакутны або квадратны ў плане, з добра прагляданай з заходняга боку жаночай часткай і з асобным уваходам у яе. Калі жаночая частка месцілася над мужчынскім пярэднім пакоем, у яе вяла асобная лесвіца, якая, у сваю чаргу, магла быць адкрытай з вуліцы ці размяшчацца ўнутры будынка. У абодвух выпадках уваходы ў мужчынскую і жаночую часткі падзяляліся.

## Сінагога = школа

У справаводстве Расійскай імперыі тэрміны «школа» і «сінагога» часта былі сінанімічныя. Невялікі малітоўны дом з двухсхільнай страхой называлі «малітоўная школа», ці проста «школа». Такая назва магла паходзіць ад «shul» — так на ідыш называлі сінагогу. Адсюль і назва сінагальнага двара — «школьны», і «школьных» вуліц у мястэчках.

У архіўных дакументах будаўнічых аддзяленняў губернскіх камісій можна сустрэць прашэнні мяшчан аб арганізацыі малітоўных школ у сваіх прыватных будынках. Цікавасць прадстаўляе прашэнне гарадоцкага мешчаніна Хазанава аб уладкаванні ў сваім доме малітоўнай школы ў 1879 годзе. Падобны зварот мешчаніна Гінзбурга меў месца ў Віцебску ў 1885-м. У Полацку мешчанін Давід Вігдэргаўз прасіў аб аднаўленні старой і будаўніцтве новай малітоўнай школы на тэрыторыі, што належала Богаяўленскаму манастыру і здавалася ў арэнду. Прычым, адну школу меркавалася адкрыць у доме, гаспадаром якога быў протаіерэй Юркевіч.

## Не вайна, дык час...

Падзеі Другой сусветнай вайны прадвызначылі лёс драўляных сінагог — яны былі знішчаны падчас акупацыі. Тыя, што перажылі вайну, трапілі пад бульдозеры ў часы інтэнсіўнай перабудовы паселішчаў гарадскога тыпу. Некалькі драўляных будынкаў выратавала перадача ў жылы фонд ці выкарыстанне ў грамадскай сферы.

У Лепелі напачатку XX стагоддзя існавала некалькі сінагог. Той будынак, што захаваўся да нашага часу, быў узведзены, па розных дадзеных, у 1918 годзе (па інфармацыі Лепельскага гарвыканкама) ці ў 1924-м (згодна з артыкулам Аркадзя Шульмана). Архітэктура сінагогі тыповая для XIX — пачатку XX стагоддзяў: падобныя рашэнні можна ўбачыць на фотаздымках сінагог у Бярозе, Докшыцах, Магілёве, Жлобіне.

У Любані яшчэ да 2009 года стаялі побач дзве драўляныя былыя сінагогі. З адной з іх звязана імя рабіна Мошэ Файнштэйна — вядомага даследчыка іудзейскага права. У 1996 годзе на сцяне адной з іх з'явілася мемарыяльная дошка, якая прысвечана жыццю і дзейнасці гэтага чалавека, але ў 2009-м сінагога была знішчана, а дошка перанесена на суседні будынак, у якім зараз знаходзіцца музычная школа.

Ніводны з гэтых будынкаў не ахоўваецца дзяржавай. Таму лёс іх, напэўна, залежыць ад зацікаўленасці патэнцыйнага інвестара ці зменаў у новым горадабудаўнічым праекце мясцовага гарвыканкама.



# Рок-опера на клубнай сцэне

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У мінскім пабе «Бругге» прайшоў другі паказ рок-оперы «Чарадзей». Першы адбыўся ў Філармоніі ў лістападзе 2016-га, трэці пройдзе таксама ў Філармоніі сёлета ў маі.**

Гурт «У нескладовае» з дапамогай студэнтак Інстытута сучасных ведаў увасобіў на сцэне ўспаміны, трызненні і сны полацкага князя Усяслава Чарадзея (1029–1101) падчас знаходжання таго ў кіеўскім порубе (вязніцы).



Невыпадкова паказ прайшоў 4 сакавіка: 3 сакавіка 1067 года адбылася бітва на Нямізе, апісваючы якую, летапісец упершыню згадвае Мінск: «Браты ж (паўднёварускія князі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад. — А.Л.) узялі Менск, перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей увялі ў палон і пайшлі да Нямігі. І пайшоў Усяслаў супраць іх. І сустрэліся праціўнікі на Нямізе месяца сакавіка ў 3-і дзень, быў снег вялікі...»

Лакалізацыя летапіснай «Нямігі» выклікае спрэчкі ў гісторыкаў, кажуць нават пра горад з такой назвай, аднак большасць навукоўцаў сыходзіцца на тым, што бітва адбылася на месцы сучаснага Мінска, на рацэ Нямізе.

Першапачатковы ж Мінск так ніколі і не адрадзіўся (гарадзішча таго паселішча, паваяванага братамі-Яраславічамі знаходзіцца ў вёсцы Гарадзішча Мінскага раёна). З сакавіка лічыцца неафіцыйным Днём горада Мінска і, як мы бачым на прыкладзе рок-оперы «Чарадзей» ды іншых ініцыятыў, адзначаецца свядомай грамадскасцю.

Кааліцыя паўднёварускіх князёў на Нямізе перамагла, але самога князя Усяслава Чарадзея захапіць у палон не здолела. Невядома, што кааліцыя рабіла ў Полацкай зямлі да 10 ліпеня 1067-га, верагодна, займалася рабаўніцтвам, а 10 ліпеня паўднёварускія князі запрасілі Усяслава на перамовы ля Оршы, прысягнуўшы, што не зробяць яму ніякай шкоды. Сцэна перамоў адлюстраваная ў рок-оперы «Чарадзей» і поўная драматызму: Ізяслаў кіеўскі і Усяслаў полацкі спрачаюцца аб лёсе Полаччыны, але чамусьці ў оперы часам гучыць слова «Беларусь», якое ў XI стагоддзі яшчэ не выкарыстоўвалася. Мастацкая метафара.

Не дабіўшыся ад Усяслава згоды стаць васалам Кіева, парушыўшы прысягу, валадара полацкай зямлі захапілі ў палон і з двума сынамі кінулі ў кіеўскі поруб. Праўда, у оперы мы не бачым ні сыноў Усяслава Полацкага, ні братоў Ізяслава Кіеўскага. Драматургія. Дыялогі князёў «адзін на адзін» выглядаюць вельмі эфектна.

У вязніцы да Усяслава прыходзяць Мара і Надзея, з якімі ён дзеліцца разважамі пра лёс свой і айчыны. І як у кожным добрым блокбастэры, прысутнічае лінія кахання: Надзея ўвасабляецца дзяўчынай Касяй з XXI стагоддзя, з якой Усяслаў сустрэўся падчас вандровак у часе. Ну і як па законах драматургіі стрэльба, што вісіць на сцяне, павінна выстраліць, так і ў «Чарадзеі» воўчая скура аказалася не проста сцэнічнай дэкарацыяй. Але прыходзьце на рок-оперу ў маі, пабачыце самі.

«Чарадзей» ужо займеў сталых прыхільнікаў: у зале прысутнічалі слухачы, якія наведалі лістападаўскі паказ у Філармоніі, уразіліся і вырашылі паглядзець, як тая ж дзея пройдзе на клубнай сцэне. Напэўна, «Чарадзей» — гэта ўсё ж не клубны фармат: людзей было не вельмі шмат, пераважна сядзелі за столікамі і на канапах, танцпол — амаль пусты. Але задума Рамана Арлова, натхнёная дзяцінствам у старажытным Полацку, безумоўна цікавая сваёй універсальнасцю і здольнасцю прыцягваць самыя розныя колы прыхільнікаў.

**Фота аўтара**

# «Каралеўства Беларусь» Міхала Анемападыстава

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Каб спазнаць разнастайнасць фарбаў цэлай краіны, не трэба выпраўляцца ў падарожжа. Беларускую палітру можна ўбачыць на выставе Міхала Анемпадыстава, якая распачала работу ў выставачнай зале Беларускага саюза дызайнераў.**





На выставе «Колер Беларусі» беларускі дызайнер, мастак і паэт-канцэптуаліст, якім ведаюць Міхала Анемпадыстава ўжо многія гады, прадставіў шэраг фота-прыкладаў каларыстычнага аздаблення беларускага асяроддзя — як натуральнага, прыроднага, так і мастацка-побытавага. Гэтыя відарысы, якія складаюць візуальны падмурак новай манаграфіі Міхала Анемпадыстава, выклікалі вялікую цікаўнасць наведвальнікаў. Сярод іх асноўную частку складалі мастацтвазнаўцы, калегі-дызайнеры і мастакі, музыканты і літаратары.

Куратар выставы, кандыдат сацыялагічных навук Таццяна Вадалажская нагадала, як некалькі гадоў таму Міхал у межах «Лятучага ўніверсітэту» пачаў чытаць лекцыі на тэму «Колер Беларусі». Гэтыя лекцыі перараслі ў цыкл, які ўжо мог стаць кнігай. Так з'явілася мара пра тое, каб ідэя «Колеру Беларусі» матэрыялізавалася, і з ёй можна было знаёміць большую колькасць даследчыкаў, студэнтаў і мастакоў. Прайшло ўсяго пяць гадоў — і мара збылася з адкрыццём гэтай выставы, а хутка плануецца выданне кнігі Анемпадыстава.

— Праект «Колер Беларусі» аб'ядноўвае дзве сферы маёй дзейнасці. Адна — візуальная, бо я па адукацыі «візуальшчык», таму прывык думаць візуальна. Другая — вербальная, калі трэба распавядаць пра колеры слухачам лекцый, напрыклад, «Лятучага ўніверсітэту». Таму я ўзяў сабе за мэту напісаць гісторыю тэмы колераў, і ілюстрацыі, якія прадстаўлены на гэтай выставе, будуць выкарыстаны пры выданні маёй будучай кнігі. Я вырашыў не даваць каментараў да здымкаў, каб пакінуць гледачоў сам-насам з візуальным шэрагам гэтай выставы. Дзеля таго, каб прысутныя маглі звязаць свае адчуванні колераў з тымі ўспамінамі, які ёсць у кожнага з нас. Адчуць праз колер візуальную сувязь з гэтымі аб'ектамі і рэчамі, з эмацыйным настроем, які я імкнуўся перадаць на гэтых выявах, структурах. «Пра кожны з гэтых колераў можна напісаць па цэлым эсэ ці брашуры. З гэтым пагодзіцца кожны, хто хоча зразумець беларускую культурную традыцыю, — адзначыў Міхал Анемпадыстаў.

**Выстава «Колер Беларусі» — адна з першых спробаў візуалізаваць каларыстыку беларускай мінуўшчыны і рэчаіснасці**

Выстава «Колер Беларусі» — гэта адна з першых спробаў візуалізаваць каларыстыку беларускай мінуўшчыны і рэчаіснасці з яе яскравымі колерамі і адценнямі, з прыроднымі структурамі, народжанымі пад уздзеяннямі ўсіх трох стыхій.

І таму ёсць добрая нагода, каб завітаць на выставу да 24 сакавіка па вуліцы Брылеўскай, 14 (уваход са двара).

**Фота Паўла Аксіновіча**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 232

Падпісана да друку 10.03.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.